ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

26 снежня 1997 г. № 52/3928 Кошт 3 000 руб.





# Калядныя ўзоры

Да Новага года засталіся лічаныя дні. І тое, што хутка будзе 1998 год, адчуваецца па настроі людзей, якія, не звяртаючы ўвагі на паўсядзённыя мітрэнгі, рыхтуюцца да свята. Кожны па-свойму.

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры адкрылася выстава "Калядныя ўзоры". Пяты раз Беларускі саюз майстроў народнай творчасці запрасіў на сустрэчу з народным мастацтвам. З кожным годам экспазіцыя "Калядных узораў" робіцца ўсё змястоўней і багацей. Выстава паказвае не толькі творы ўжо вядомых майстроў, але і адкрывае новыя імёны.

Роспіс па шкле і дрэве Ларысы Зайцавай, кераміка Валерыя Зінкевіча, вышываныя абразы Надзеі Пятрушкі — гэтыя работы сталі ўпрыгожаннем выставы. Уразіла ўсіх сваімі ёлачнымі цацкамі з саломкі Ганна Іванова.

*На здымках: такім бачыць каляцоўшчыка мастак-кераміст з Браслава Валерый Зінкевіч; кераміст Сяргей Шчэрба з Пастаўскага раёна "агучвае" на выставе свае творы.*

*Фота БЕЛТА*



## Пра "Літоўскую кнігу..."



**У Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава "Літоўская кніга ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі". Абедзве краіны звязваюць гістарычныя і культурныя карані, што і адлюстравана ў старадаўніх выданнях, сабраных бібліятэкай за многія гады.**

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

## Адметнасць украінскай вышыўкі

**У кожнага народа свае традыцыі, сваё мастацтва, у многім непадобнае на тое, што створана іншымі народамі, няхай і суседзямі. І такі даўні жанр яго, як вышыўка, не выключэнне. У гэтым можна ўпэўніцца, калі наведаць выставу "Украінская вышыўка", што экспануецца ў Галерэі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што знаходзіцца ў Мінску па вуліцы Кастрычніцкай, 5... Свае работы вынеслі на суд гледачоў украінскія культурна-асветныя таварыствы з Мінска, Брэста, Гродна, Кобрына, Маладзечна і гарадскога пасёлка Калядзічы.**

## Першынец у "Школьнай бібліятэцы"

**Так, першынец, хоць міжвыдавецкая серыя "Школьная бібліятэка" даўно знайшла свайго чытача сярод вучняў і настаўнікаў. Дзякуючы гэтай бібліятэцы яны атрымалі магчымасць пазнаёміцца з найбольш выдатнымі творамі беларускай літаратуры, а таксама з перакладнымі выданнямі, творамі рускіх пісьменнікаў. Але ж, не трэба забываць, што ў спецыяльных школах вучацца дзеці, пазбаўленыя магчымасці чытаць такія кнігі. Каб забяспечыць іх неабходнай літаратурай, у выдавецтве "Полымя" быў распачаты выпуск кніг шрыфтам Брайля для дзяцей-інвалідаў па зроку. Не абыдзена ўвагай і "Школьная бібліятэка". Першынцам у ёй стала кніга Артура Вольскага "Карусель".**

## У салоне "БелАрт"



**Першая буйная за апошнія дзесяць гадоў выстава вырабаў з керамікі і саломкі прадстаўлена ў салоне "БелАрт" у Брэсце. У ёй прынялі ўдзел творцы цудоўнага з Мінска, Брэста, Мазыра, Мар'інай Горкі, прадстаўлена звыш трохсот вырабаў, многія з іх унікальныя.**

*На здымку: выставу прадстаўляе работніца салона "БелАрт" Людміла Крапіўная.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

СУСТРЭЧЫ

# І ніякіх "Сабораў"...

Сустрэча адбылася ў канцы восені ў Доме літаратара падчас Дзён балгарскай літаратуры ў Беларусі. Нешматлікую, але прадстаўнічую дэлегацыю дзеячаў культуры Балгарыі на чале з вядомым паэтам і нашым шчырым сябрам Стэфанам Паптоневым віталі старшыня Рады СБП Васіль Зуёнак, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч ды іншыя сябры нашага саюза.

Ужо ў прывітальным слове В. Зуёнка загучала тэма "Панарамы" — неардынарнага ў сённяшніх варунках здзяйснення — выдання ў Балгарыі альманаха, цалкам прысвечанага сучаснай беларускай літаратуры.

Складальнік, перакладчык многіх твораў нашых паэтаў і празаікаў, аўтар уступнага слова "Да чытачоў" — менавіта ён, старшыня таварыства "Балгарыя — Беларусь" Ст. Паптонеў. Паколькі ў свой час, падчас Дзён беларускай літаратуры ў Балгарыі (май 1997г.), калі з'явіўся памянёны зборнік, наша аператыўная крытыка абышла яго сваёй увагай, варта звярнуцца да яго зместу.

Пра паўнату і ўсебаковасць панарамы сучаснай беларускай літаратуры ў адным выданні сцвярджаць, напэўна, было б некарэктна. Але ж выданне саліднае — 360 старонак поўнафарматнага часопіса плюс 15 старонак чорна-белых ілюстрацый нашых вядомых мастакоў. Дарэчы, Ст. Паптонеў спецыяльна прыязджаў да нас па літаратурныя матэрыялы, адбор іх і змест выдання абмяркоўваліся ў Саюзе пісьменнікаў. Так што выпадковых аўтараў і твораў у балгарскім выданні няма, хіба што пры той спешцы, якую дыктавалі ўмовы, нехта быў прамінуты. Але факт, што ў "Панараму" трапілі не горшыя творы.

Адкрываецца гэты спецыяльны выпуск вершам А. Вярцінскага "Балгарыі". Далей — усё прадумана: уступнае слова Ст. Паптонева, уводны артыкул Надзвычайнага і паўнамоцнага пасла РБ у Балгарыі А. Герасіменкі "Духоўная скарбніца Беларусі", артыкул даследчыцы славянскіх літаратур Румяны Эўцімавай, матэрыял нашага вядомага навукоўца, філосафа і філолага У. Конана.

Рубрыкі і імёны гавораць самі за сябе. *"Памяць"* — гэта гісторыя. Тут Уладзімір Арлоў з аповесцю "Міласць князя Гераніма", Васіль Быкаў (аповесць "Пакахай мяне, салдацік"), апавяданні Вячаслава Адамчыка, Анатоля Кудраўца, вершы Ларысы Геніюш, артыкул Адама Мальдзіса.

*"Зона"* — сумнавядомая тэма Чарнобыля. Тут паэма Уладзіміра Някляева пад гэтым назвам; аповесць Віктара Казько "Час каметы"; "Ільвы" Івана Пташнікава; паэма Сяргея Законнікава "Зязюля". Далей — раздзел *"Любоў"*, які адкрываецца вершамі Яўгеніі Янішчыц; тут змяшчаецца апавяданне Генрыха Далідовіча "Броня", вершы Раісы Баравіковай, Леаніда Дранько-Майсюка. Сучаснасць адлюстроўваецца ў вершах Ніла Гілевіча, у мініяцюрах Янкі Брыля, у творах Івана Шамякіна, Георгія Марчука, Міколы Купрэева. Раздзел *"Беларусь"* пачынаецца гутаркай Стэфана Паптонева з Васілём Зуёнкам, затым ідуць вершы Зуёнка і нашага старэйшыны Максіма Лужаніна, змешчаны творы празаікаў Алеся Жука і Адама Глобуса.

Апошні раздзел — *"Паэтычныя галасы"*. Сюды трапілі Данута Бічэль-Загнетава, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Алесь Казько, Васіль Сахарчук, Людміла Рублеўская, Ала Канапелька, Леанід Галубовіч ды Віктар Шніп. Цэлае паэтычнае сузор'е!.. Акрамя таго, у "Панараме" ўпершыню ўведзены літаратурны дадатак для дзяцей пад назвай "Чудно ателие", што можна перакласці як *"Дзівосная майстэрня"*. У гэтай "майстэрні" ў добрых перакладах на балгарскую мову змешчаны вершы Васіля Віткі, Міколы Чарняўскага, Эдзі Агняцвет, Юрася Свіркі, Міколы Маляўкі, Васіля Жуковіча, гумарыстычныя апавяданні Паўла Місько і Уладзіміра Ягоўдзіка, казка Сяргея Тарасава, беларускія народныя казкі.

Нумар, цалкам прысвечаны сучаснай беларускай літаратуры, у нашых сяброў атрымаўся сапраўды панарамны і засведчыў, што балгарска-беларускім літаратурным узаемасувязям нададзены новы штуршок. Ён з'явіўся добрым прыкладам ды і стымулам для беларускіх перакладчыкаў балгарскай літаратуры. На сустрэчы ў Доме літаратара С. Законнікаў праінфармаваў гасцей, што ў "Полымі" рыхтуецца вялікая падборка твораў балгарскай літаратуры. Яны будуць апублікаваны ў адным з нумароў новага года. Балгарскія сябры ў сваю чаргу паведамілі, што ў іх задумана падрыхтаваць і выпусціць у 1999 годзе вялікую анталогію беларускай паэзіі, прычым на дзвюх мовах — балгарскай і беларускай, — а ў бліжэйшы час — зборнік паэзіі Яўгеніі Янішчыц.

Усё гэта цудоўна: актывізуецца традыцыйнае ўзаемадзеянне братніх народаў праз літаратуру. Адно насцярожвае — на змену бальшавізму прыйшла — нараджаная, вядома, у імперскіх колах Расіі — ідэя панславізму, якая кліча нас у новую імперыю.

— Ні ў якім разе нельга паддавацца гэтай ідэі, — сказаў У. Паўлаў. — Безумоўна, мы павінны быць разам, нас ніхто не раз'ядноўваў душэўна, духоўна. Мы славяне — так, але хіба мы вышэй за іншых? На расавых прымхах нельга будаваць свет.

— Балгары не прымаюць панславізму, не прымаюць ніякіх славянскіх імперый, ніякіх "сабораў", — гаварыў на прэс-канферэнцыі Ст. Паптонеў ад імя балгарскай дэлегацыі.

І мы цалкам згодны з такой грамадзянскай пазіцыяй.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ,**
**сябар Рады таварыства "Беларусь—Балгарыя"**

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Якой бачылі родную мову Скарына і Ластоўскі...

Больш чым сто навукоўцаў з самых розных ВНУ Беларусі, акадэмічнага Інстытута мовазнаўства, а таксама беларусазнаўцы з далёкага замежжа прынялі ўдзел у міжнароднай канферэнцыі "Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя". Праваздзенне канферэнцыі было ініцыіравана міжнародным праектам "Змены ў сучасных славянскіх мовах. 1945—1995 гг.", які ажыццяўляецца пад агульным кіраўніцтвам Польскай акадэміі навук і Міжнароднага камітэта славістаў і прымеркаваны да XII Міжнароднага кангрэса славістаў (Кракаў, 1998 г.). Вынікам гэтага праекта стане падрыхтоўка і выданне 12 асобных манаграфій па кожнай славянскай мове. На сённяшні дзень у выдавецтве Опальскага універсітэта (Польшча) ужо надрукаваны кнігі па сербскай і балгарскай мовах. Рыхтуецца такая манаграфія і беларускімі вучонымі. Аўтарамі яе з'яўляюцца супрацоўнікі кафедраў гісторыі беларускай мовы і сучаснай беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта і Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН.

На працягу трох дзён на філагічным факультэце БДУ ішла зацікаўленая размова аб лёсе беларускай мовы на рубяжы другога тысячагоддзя. У прывітальным слове старшыні аргкамітэта канферэнцыі, першага прарэктара БДУ прафесара Пятра Брыгадзіна, у дакладах акадэміка Аляксандра Падлужнага, каардынатара міжнароднага праекта "Змены ў сучасных славянскіх мовах. 1945—1995 гг." прафесара Станіслава Гайды (Польшча), прафесара Гомельскага універсітэта Уладзіміра Анічэнкі, прафесара Зальцбургскага універсітэта Германа Бідэра (Аўстрыя), прафесараў Браніслава Плотнікава, Генадзя Цыхуна, дацэнтаў Лідзіі Сямешкі, Зінаіды Данільчык, Сяргея Запрудскага, Ганны Басавай, у выступленнях і паведамленнях іншых навукоўцаў былі ўзняты і абмеркаваны важныя і актуальныя пытанні развіцця беларускай мовы на працягу апошніх пяцідзесяці гадоў, а таксама яе сучасны стан у грамадстве. Канферэнцыя зазначыла дастаткова высокі навуковы патэнцыял беларускіх мовазнаўцаў, што дазваляе паспяхова вырашаць многія складаныя і супярэчлівыя праблемы сучаснага моўнага жыцця ў краіне, а таксама прыступіць да планамернага абнаўлення падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове з улікам тых змен, што адбыліся ў структурным развіцці беларускай мовы ў другой палове XX стагоддзя, у характары моўнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь і статусе беларускай мовы як мовы тытульнай нацыі.

Удзельнікі канферэнцыі звярнулі ўвагу на той факт, што ў апошні час, асабліва пасля майскага 1995 года рэферэндуму і канстытуцыйнага замацавання дзяржаўнага двухмоўя ў Рэспубліцы Беларусь з боку вышэйшых органаў дзяржаўнага кіравання назіраецца неабгрунтаванае аслабленне ўвагі да праблем функцыянавання беларускай мовы ў грамадстве, павышэння яе ролі як дзяржаўнай мовы і мовы тытульнай нацыі ў важнейшых сферах грамадскіх зносін, у першую чаргу ў сферы справаводства, дзяржаўнага кіравання, адукацыі, навукі і г. д. У сувязі з гэтым сёння як ніколі беларуская мова зноў патрабуе падтрымкі на дзяржаўным узроўні, паколькі належны ўзровень выкарыстання мовы тытульнай нацыі ў важнейшых сферах зносін, у тым ліку і міждзяржаўных, будзе самым непасрэдным чынам спрыяць міжнароднаму прэстыжу Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы ў сусветным супольніцтве, а таксама садзейнічаць уваходжанню арыгінальнай беларускай культуры ў сусветную культуру.

Адзначалася, што праца над новым варыянтам "Закона аб мовах" ажыццяўляецца ледзь не патаемна, кулуарна, без шырокага абмеркавання яго асноўных палажэнняў сярод навукоўцаў-моваведаў, па сутнасці не суправаджаецца распрацоўкай праграмы канкрэтных мерапрыемстваў, скіраваных на тое, каб беларуская мова нарэшце заняла ў грамадстве годнае месца, дэкляраванае ёй Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

На заключным пленарным пасяджэнні ўдзельнікі канферэнцыі вырашылі:

— практыкаваць рэгулярнае правядзенне навуковых канферэнцый па актуальных праблемах развіцця сучаснай беларускай мовы (не радзей аднаго разу ў два гады);

— праводзіць міжкафедральныя семінары па асобных актуальных праблемах сучаснага беларускага мовазнаўства;

— з мэтай паспяховага абмеркавання пытанняў нармалізацыі сучаснай беларускай мовы і больш шырокага азнаямлення лінгвістычных колаў з праблемамі і дасягненнямі беларускага мовазнаўства наладжваць і ўзмацняць кантакты з моваведамі-беларусістамі блізкага і далёкага замежжа;

— звярнуць увагу на недапушчальнасць грубых адхіленняў ад норм беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі і ў першую чаргу радыё і тэлебачання. Звярнуцца ў Дзяржкамітэт па радыё і тэлебачанні з прапановай правесці "круглы стол" па культуры вуснай беларускай мовы ў гэтай уплывовай сферы;

— з мэтай актуалізацыі навуковага даследавання сучасных праблем беларускага мовазнаўства прыняць захады па стварэнні цэнтралізаванага банка тэматыкі кандыдацкіх і доктарскіх даследаванняў па беларускай мове;

— з мэтай прыцягнення ўвагі дзяржаўных органаў кіравання да надзённых праблем развіцця і функцыянавання беларускай мовы ў сучасных умовах звярнуцца ў адпаведныя дзяржаўныя структуры (у першую чаргу Міністэрства адукацыі) з канкрэтнымі прапановамі па гэтай праблеме;

— звярнуць увагу на неабходнасць канцэнтрацыі ўвагі моваведаў-беларусістаў і выкладчыкаў на актуальных праблемах методыкі выкладання беларускай мовы на розных узроўнях навучання з улікам змен, што адбыліся ў беларускай мове і моўнай сітуацыі ў Беларусі ў канцы XX стагоддзя.

Зразумела, гэта далёка не поўны пералік тых праблем і адпаведна мерапрыемстваў, якія павінны быць у цэнтры ўвагі як моваведаў, выкладчыкаў ВНУ і настаўнікаў, так і структурных дзяржаўных органаў, грамадскіх і палітычных аб'яднанняў. Яшчэ не позна, як гэта зрабілі дэпутаты Мінскага гарадскога савета, паставіць пытанне: чаму ў сталіцы рэспублікі колькасць беларускамоўных класаў скарацілася ў 10 разоў, чаму кніжныя паліцы літаральна завалены прадукцыяй на рускай і іншых мовах, толькі не на беларускай?.. Зрэшты, паставіць пытанні зусім няцяжка, галоўнае — вырашыць іх так, каб мова тытульнай нацыі, мова беларуская, стала сапраўды ўсенароднай, такой, якой бачылі яе Францішак Скарына і Усевалад Ластоўскі, Леў Сапега і Яўхім Карскі, Сымон Будны і Браніслаў Тарашкевіч...

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ**

ШЛЯХІ

# Верыць у Беларусь

Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК

## МАРАЛЬНЫ АСПЕКТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

ТРЫ ГАДЫ таму мне давялося выступіць у друку са спробай абгрунтавання думкі, што працэс беларусізацыі ў нашай краіне, каб мець станоўчыя вынікі, павінен не толькі падтрымлівацца дзяржавай, але мусіць стаць адным з галоўных напрамкаў дзяржаўнай палітыкі ("Каб не ўмёрлі" — "ЛіМ", 21 кастрычніка 1994 г.). Інакш беларускае Адраджэнне, актывізаванае ўсяго людзьмі, якія хіба толькі Божай ласкай зберaглі высокую нацыянальную самасвядомасць, рызыкуе паціху аслабець ды з цягам часу ўвогуле змізарнець. Менавіта дзяржава павінна была стаць умовай і гарантам паўнапраўнага, паўнакроўнага быцця беларускай нацыі, яе натуральнай жыццядзейнасці.

Прайшло некалькі гадоў, слабыя парасткі той дзяржаўнай палітыкі завялі. Праўда, дзяржава Беларусь існуе. І ў якасці формы палітычнай арганізацыі беларускага этнасу з'яўляецца нацыянальнай. Але, на жаль, не беларускай. Як жа захаваць беларусам сваю нацыянальна-культурную адметнасць, абумоўленую рознымі фактарамі — гістарычным, геапалітычным і іншым? Як беларусам выжыць?

Натуральна, адзінкі (ці тысячы, дзесяткі тысяч), ахопленых нацыянальнаю ідэяю і вялікім пачуццём адказнасці перад будучыняй, лёсам дзяцей і ўнукаў сапраўдных патрыётаў сваёй зямлі, будуць свядома і ашчадна захоўваць беларускую мову, нашае светабачанне, светаразуменне, светаўяўленне і па магчымасці прапагандаваць усё беларускае. Няма, аднак, сумнення, што трэба шукаць сродкі масавага ўздзеяння на людзей, спосабы калі не выхаду з нацыянальнага анабіёзу, то хоць бы прыпынення татальнага разбурэння культу прафесіяналізму, ведаў, адукаванасці, інтэлігентнасці, асноў духоўнасці, культуры, урэшце, здаровага сэнсу. Але ці ёсць шляхі масавага выхавання людзей на спаконвечным падмурку (безумоўна, на прынцыпах адкрытасці грамадства, калі ступень, спосаб і характар засваення ўсялякай новай інфармацыі абумоўліваюцца яе адаптаванасцю, спалучальнасцю з нацыянальна-культурным ядром нацыі-прымальніка, у дадзеным выпадку — беларускай нацыі)? Ці ёсць шляхі для гэтага, калі сістэма народнай адукацыі, сродкі масавай інфармацыі, часткова прафесійная мастацкая культура — увесь інстытут этнізацыі — па вядомых прычынах амаль не могуць быць задзейнічаны?

Калі за мэту маем ажыццяўленне беларускай нацыянальнай ідэі, то, вызначыўшы сутнасць і ўсе даступныя нашаму разуменню асаблівасці апошняй, мы зможам акрэсліць канкрэтныя задачы дзеля дасягнення гэтай мэты — рэалізацыі беларушчыны.

У дваццатым стагоддзі, асабліва ў канцы яго, калі абвастрылася праблема нацыянальных узаемаадносін, актуалізавалася вывучэнне нацыянальнай спецыфікі, пачалі і на Беларусі шырока распаўсюджвацца тэорыі заходніх вучоных аб культурнай аўтаноміі, культурных кругах, канцэпцыі нацыянальнага духу, нацыянальнай волі, што распрацоўваюцца амерыканскімі сацыёлагамі Т. Конам, К. Дэйчам, Б. Шэйферам і інш., а таксама ідэі расавай душы Шпенглера і Фрабеніуса, заснаваныя на разуменні культуры як нацыянальнага феномена. Магчымасць азнаямлення з навуковымі распрацоўкамі згаданага кшталту, разам з сацыяльна-палітычнай запатрабаванасцю і ўнутранай разняволенасцю спрыяюць беларускаму асэнсаванню гэтых жыццёва важных пытанняў.

Вынікі пошуку ўласна-беларускай парадыгмы ўмоўна можна падзяліць на два тыпы:

1. Літаратурна-мастацкае, філасофскае, публіцыстычнае і іншае асваенне самога падмурка нацыянальнага светабачання, светаўяўлення, светаразумення праз раскрыццё беларускіх асаблівасцяў ва ўсіх сферах жывога быцця, а таксама разумення гэтых асаблівасцяў. Прыклад — кніга А. Бембеля "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" і артыкул У. Караткевіча "Мова (што я думаю пра цябе)", прысвечаны разважанням і аналізу выказванняў людзей пра беларускую мову, змешчаных у вышэйпамянёнай кнізе А. Бембеля.

2. Вызначэнне, удакладненне саміх паняццяў "нацыя", "нацыяналізм", "патрыятызм", "Нацыянальная самасвядомасць", "Нацыянальная ідэя", а таксама канкрэтнае напаўненне гэтых і падобных тэрмінаў беларускім зместам.

Згаданыя два тыпы коратка могуць быць абазначаныя, як "што ёсць насамрэч" і "пра што расказваем".

Пытанні, звязаныя з асаблівасцямі беларускай нацыянальнай ідэі закранаюцца сёння прама ці апасродкавана ці не ў кожным навуковым, публіцыстычным артыкуле, манаграфіі, калі толькі размова ідзе пра самабытны культурна-гістарычны тып. На шчасце, становіцца традыцыяй пры даследаваннях нацыянальнага духу, нацыянальнага каларыту звяртацца ўжо не толькі да моўнага, этнаграфічнага, гістарычнага фактараў, але ўлічваць і філасофскі ці псіхалагічны аспект. Праўда, часам паняцці "беларуская нацыянальная ідэя", "беларускі светапогляд", "самасвядомасць беларусаў" узаемападмяняюцца, не размяжоўваюцца, але гэта здараецца тады, калі аўтар не мае за мэту іх дакладнае навуковае акрэсленне. Гэта можа быць звязана і з розначытаннямі, а таксама неадназначнасцю самога тэрміна "нацыя". Так, пад гэтым паняццем у самых агульных рысах мы разумеем, па-першае, цэласнасць, культурна-гістарычную, па-другое, ідэалагічна-палітычную, якая можа атаясамлівацца з дзяржавай — юрыдычнай адзінкай міжнародных зносінаў. Даволі рэдка сустракаецца размежаванне "нацыі" як "натуральнай" адзінкі і як палітычнай мэты ці ідэалу. Да таго ж, наўрад ці магчыма сёння адшукаць такое вызначэнне беларускай нацыянальнай ідэі, якое б цалкам адпавядала неадназначнай рэальнасці і адлюстроўвала б усе падыходы да гэтай складанай праблемы (няма нічога ў рэальнасці, эмпірыцы, што адпавядала б ідэі). Думаецца, што чым больш разнастайны спектр думак, індывідуальных ідэй у дачыненні да нашай агульнай нацыянальнай ідэі, тым больш шанцаў на сваю рэалізацыю яна мае.

Тут варта ўзгадаць "круглы стол" у рэдакцыі часопіса "Нёман" (N 6 за 1993 г.) па пытанні "Беларускі шлях", дзе вядомыя культурныя і палітычныя дзеячы выказваюць сваё разуменне беларускай нацыянальнай ідэі. Так, А. Кудравец лічыць, што ідэя — гэта штосьці нявызначанае, няпэўнае, а шлях і ёсць жыццёвае пераламленне той ідэі. С. Шушкевіч звяртае ўвагу на неабходнасць своечасовага выкарыстання ў справе станаўлення суверэнітэту таленавітых, нетрадыцыйных падыходаў. В. Каваленка гаворыць аб тым, што, каб нацыянальная ідэя ўзнікла, патрэбны доўгі гістарычны вопыт народа (беларусы ж такі вопыт маюць), што няможна паддавацца спакусе спрашчэння дзеля паскоранага развіцця краіны, у якой інтэлігенцыя здрадзіла народным інтарэсам, што "мы самі — шлях да сваёй айчыны і самі па ім ідзём". Уражваюць словы Р. Гарэцкага, што на працягу больш за сто гадоў колькасць беларусаў застаецца прыкладна аднай і той жа, г. зн. каля дзесяці мільёнаў. Абсалютна слушна З. Пазняк сцвярджае, што дзяржава для беларусаў — найвышэйшая культурная і грамадская каштоўнасць, і Беларусь — не мост паміж Усходам і Захадам, а краіна з еўрапейскім народам, тыпалагічна вызначанай еўрапейскай гісторыяй і культурай. Нельга не пагадзіцца з У. Конанам, што нацыянальная ідэя, або "дух нацыі", выяўляецца двума спосабамі: эмпірычна і ўсвядомлена, у формах культуры, метадамі мастацкай і філасофскай рэфлексіі. Паводле М. Тычыны, "беларуская ідэя прайшла яшчэ адзін адрэзак свайго шляху. І гэты адрэзак адпавядае рытму гістарычнага часу, змене цыклу сонечнай актыўнасці, успышка якой завяршаецца прыкладна раз у 12 гадоў. Адбываецца структурная перабудова нацыянальнага арганізму, пераключэнне на новы рэжым жыццядзейнасці".

У дадзеным кантэксце нацыянальная ідэя выступае як магутны фактар уплыву на ўвесь лад нашага жыцця, а яе практычны жыццёвы сэнс выяўляецца ў эфектыўным і мэтазгодным механізме існавання беларускага грамадства. Будучы формай сацыяльнай свядомасці, нацыянальная ідэя наўрад ці можа быць глыбока канкрэтызавана, бо яна — ідэя шчасця (сацыялагізаваная ідэя шчасця на ўзроўні грамадства), камфорту, гармоніі, у прынцыпе — ідэя раю на зямлі.

На жаль, вучоным і публіцыстам часта прыходзіцца займацца сізіфавай працай, траціць шмат сіл на доказ аксіём, апавядаць пра непаўнацэннасць уласнага існавання ў дэнацыяналізаваным грамадстве, пра неабходнасць усведамлення нацыянальнай прыналежнасці для нармальнага жыцця.

Калі дзяржава не рэалізуе беларускую нацыянальную ідэю, то выратаваць апошнюю можа мараль. (Катэгорыі "мараль" "ідэя" звязаныя паміж сабой, бо і адна, і другая адлюстроўваюць часцей не тое, што ёсць, а тое, што павінна быць). Тут маецца на ўвазе не так дзяржаўная мараль (хаця мараль асобы і мараль дзяржавы — рэчы ўзаемазвязаныя), як суадносіны дзяржавы і маралі ў плане адначаснага шырокага ўздзеяння і на масавую свядомасць і на індывідуальную свядомасць кожнай канкрэтнай асобы. Асабіста я не магу ўявіць сабе сумленнага чалавека, які, жывучы на беларускай зямлі, без належнага шанавання ставіўся б да беларускай культуры, беларускай мовы. Гэта пытанне — якраз пытанне не так ведання, разумення (хаця і гэта важна), як пытанне любові, маральнай адказнасці. Без сумневу, страта маральных каштоўнасцяў, скажэнне маральных імператываў, імклівы поступ масавай культуры, пашырэнне дзейнасці дэструктыўных рэлігійных сектаў і іншыя негатыўныя праявы дэмаралізацыі грамадства — тэма асобнага даследавання. Нас жа цікавіць у першую чаргу маральны аспект беларускай нацыянальнай ідэі.

Беларуская нацыянальная ідэя і нацыянальная ідэя беларусаў — паняцці цалкам тоесныя ці не? Думаецца, што беларуская нацыянальная ідэя, апрача зместу, закладзенага ў нацыянальнай ідэі беларусаў — а гэта найперш усвядомленая адметнасць беларускага гістарычнага шляху і канкрэтны ўнёсак беларусаў у агульначалавечую культуру, увасабляе беларускае светабачанне, светаразуменне, светаўяўленне, мае не ўвазе чалавека нацыянальнага, змяшчае ў сабе этнічную мадэль свету. Гісторыя нацыянальнага вопыту — агульна-нацыянальная памяць, а памяць, як вядома, — аснова маралі. Маралі ж без памяці ўвогуле не бывае. Амаральна забываць традыцыі гістарычныя, культурныя — тое, што ляжыць на паверхні, лёгка вызначаецца эмпірычна і складае падмурак нацыянальнай ідэі беларусаў. Але не менш амаральна не актуалізоўваць унутраныя, амаль заўсёды падсвядомыя нацыянальныя архетыпы, якія прапануюць чалавеку метад і ўжо гатовыя вынікі пазнання, што дае асобе вялікія магчымасці ў інтэлектуальным і духоўным удасканаленні, — а менавіта гэта ўдакладняе змест і надае афарбоўку нацыянальнай ідэі беларусаў, робіць яе беларускай нацыянальнай.

Вылучыўшыся з прыроды, чалавек не ператвараецца ў штосьці надпрыроднае, бо ён з'яўляецца не толькі прадуктам прыроды, але і часткаю яе, таму знаходзіцца з прыродай і ў генетычнай, і ў глыбокай актуальнай сувязі. Хаця прагрэс чалавецтва ідзе ў сферы назапашвання духоўнага, інтэлектуальнага вопыту, а не ў сферы прыроднага "я" чалавека, усё ж гэты прагрэс адбываецца ў межах супярэчлівай чалавечай натуры. Дасягнуць вышыняў у сваім развіцці чалавек можа, калі абапіраецца на нацыянальныя архетыпы, на нацыянальную ментальнасць, якія ў сэнсе зададзенасці ёсць натуральныя.

Вядома, што для таго, каб нацыя не гублялася ў бязмежнасці быцця, яна павінна мець нейкую галоўную частку, г. зн. уласна-нацыянальнае ядро, якое б захоўвала нацыянальна-культурную самабытнасць, тое вечнае, стабільнае і маларухомае, што і вызначае спецыфіку дадзенай нацыі. Само сабою, не маючы вонкавых уплываў, свежай інфармацыі, нацыя не развіваецца і гіне, як гіне яна і з прычыны празмернай слабасці нацыянальнага ядра, якое ў такім выпадку не выконвае функцыю захавання нацыянальнай спецыфікі.

Нацыянальным ядром можа стаць нацыянальны светапогляд, які забяспечвае цэласнасць, адносную адасобленасць, наяўнасць сувязяў з іншымі нацыямі, з наваколлем у цэлым, падпарадкаванасць арганізацыі ўсёй нацыянальнай сістэмы архімэце — самавыжыванню. Менавіта нацыянальны светапогляд трансфармуе любы новы змест, надае яму адпаведную форму трактавання і сутнасць, асімілюе чужыя ўплывы, прыпадабняе іх да сваіх, карэнна-ўласцівых нацыі рысаў. З другога боку, дасюль чужая інфармацыя ўжо знутры нацыі фарміруе іншы статус сістэмы, змяняючы такім чынам нацыянальнае ядро.

Важна разумець, што нацыянальны светапогляд не ёсць нацыянальная самасвядомасць, якая можа быць уласцівай не ўсім прадстаўнікам нацыі, не самаідэнтыфікацыя. Хаця апошняя развіваецца з нацыянальнага светапогляду, яна не з'яўляецца абавязковай складовай часткай, неабходнай умовай яго існавання.

Свядомае і неўсвядомленае захаванне нацыянальнага ядра, нацыянальнага светапогляду, нацыянальных архетыпаў і г.д. вядзе не толькі да захавання і развіцця нацыянальнай культуры, але і да ўмацавання статута (нацыянальнага) Дабра, (нацыянальнай) сістэмы і іерархіі каштоўнасцяў, гэта значыць, з'яўляецца маральным, а носьбіты беларускай нацыянальнай ідэі, выконваючы пэўнае маральнае заданне, спрычыняюцца да ўзмацнення, пашырэння маральнасці. Маральнасць жа не ёсць нацыянальнай па сваёй сутнасці, але выяўляецца праз катэгорыі Дабра і Зла, канкрэтныя для кожнай нацыянальнай культуры. Культура, як вядома, гэта не сукупнасць застылых формаў, а сама жыццёвая актыўнасць, якая падпарадкоўваецца двум законам, двум імператывам — неабходнасці жыць і неабходнасці быць маральным чалавекам.

У сваёй кнізе "Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку 20 стагоддзя" Л. Гаранін, супастаўляючы "рускую ідэю" і "беларускую", піша, што "калі "руская ідэя", зазнаўшы магутны ўплыў рэлігіі і філасофіі, развівалася ў літаратуры таксама пераважна як рэлігійна-філасофская канцэпцыя, з пастаноўкай "адвечных" сусветных праблем, то "беларуская ідэя", зазнаючы магутны ўплыў сацыяльна-гістарычных фактараў, напал самога жыцця, развівалася ў літаратуры пераважна як сацыяльна-маральная праблема, што адпавядала задачам сучаснага і будучага беларускага народа, яго матэрыяльным і духоўным патрэбнасцям". Дададзім, што беларуская нацыянальная ідэя па сваёй сутнасці ёсць найперш сацыяльна-маральная тэма, таму і ў літаратуры яна адлюстроўваецца адпаведна. Зрэшты, магчыма, якраз дзякуючы літаратуры і існавала сама беларуская ідэя, бо беларускім пісьменнікам давялося (ды і цяпер даводзіцца) быць беларускімі філосафамі, беларускімі этнографамі, беларускімі гісторыкамі і г.д.

Увогуле нацыянальная ментальнасць, нацыянальныя архетыпы, сімвалы, міфы, мова, выяўляючы сябе ў светапоглядзе нацыі і кожнага канкрэтнага чалавека, лягчэй за ўсё паддаюцца вывучэнню пры аналізе мастацкіх твораў, бо кожны пісьменнік — не толькі носьбіт нацыянальнага светапогляду, але ён у працэсе мастацкай творчасці свядома выкарыстоўвае і памнажае згаданыя кампаненты бачання свету.

Думаецца, што нацыянальны светапогляд — базіс нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай ідэі — можа быць даследаваны пераважна двума шляхамі: вывучэннем, абагульненнем канкрэтна-гістарычных каранёў і шляхоў фарміравання і існавання нацыянальных адрозненняў, чым займаецца навука, і даследаваннем праблемы ў межах мастацтва, дзе павінен праводзіцца культуралагічны аналіз, аналіз мовы і формы, сімвальнага сэнсу, апасродкаванасці значэння і інш. Агульныя законы аналізу мастацкіх твораў становяцца агульнымі законамі вывучэння нацыянальных ментальнасцяў, балазе тут задзейнічаны і навука, і філасофія, і мастацтва, і рэлігія, і сам нацыянальны светапогляд. Пры даследаванні мастацтва, асабліва літаратуры, якая максімальна ўбірае ў сябе ўсю сістэму народнай маралі, нацыянальнай этыкі, традыцыйных уяўленняў пра Дабро і Зло, непазбежна актуалізуецца пытанне маральнай адметнасці нацыянальнай ментальнасці і як вынік — нацыянальнай ідэі. У нацыянальнай культуры выяўляюцца асаблівасці нацыянальнай маралі, нацыянальнай духоўнасці.

Калі ж беларуская літаратура фарміравала і рухала беларускую нацыянальную ідэю, то, зразумела, апошняя не магла не мець не толькі "маральную" афарбоўку, але не магла не быць маральнай па сваёй сутнасці. Невыпадкова кожны прыхільнік беларускай ідэі, асабліва яе актыўны праваднік, мусіў і мусіць характарызавацца такімі маральнымі якасцямі, як "мужны", "самаахвярны", "адданы Радзіме", "з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй" і г.д. (безумоўна, тут падразумяваецца і пэўны інтэлектуальны ўзровень, творчыя магчымасці і інш.). Больш за тое, беларускі нацыяналіст — актыўны чыннік беларускай нацыянальнай ідэі — гэта, як правіла, яркая, моцная асоба з пачуццём уласнай годнасці і гонарам за Беларусь, здольная да самастойнай думкі, да супраціўлення гвалту, да супрацьстаяння цёмным інстынктам натоўпу, разумеючы, што перакананні большай часткі людзей складваюцца на аснове чутак, ілжывых аўтарытэтаў. Свядома, мэтанакіравана, прынцыпова, паслядоўна адстойваць беларушчыну — гэта больш задача, якую трэба выканаць, чым спадчына, якую трэба захаваць. І чым менш спрыяюць знешнія варункі (сама) рэалізацыі

*(Працяг на стар. 14—15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Быў такі краязнаўца — Краснянскі

**Беларускі гісторык і краязнаўца Уладзімір Краснянскі — не з тых, каго часта згадваюць. А між тым і ён варты ўвагі і ўдзячнасці. Ураджэнец сяла Руціна колішняга Валдайскага павета Наўгародскай губерні (Расія), ён дасягнуў поспеху ў даследаванні і вывучэнні беларускай мінуўшчыны. Скончыўшы Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут, У. Краснянскі, папрацаваўшы дзесяць гадоў настаўнікам рускай мовы ў Беластоцкім рэальным вучылішчы, у 1896 годзе пачаў выкладаць гісторыю і геаграфію ў Мінскай гімназіі. Пазней з'яўляўся памочнікам архіварыуса Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў, кіраўніком канцылярыі Віленскай навучальнай акругі, дырэктарам Мсціслаўскай гімназіі. З 1911 года свой лёс звязаў з Віцебскам — дырэктар рэальнага вучылішча, лектар і выкладчык у навучальных установах горада, загадчык музея В. Федаровіча, інстытута народнай адукацыі, навуковы супрацоўнік, а затым намеснік дырэктара гістарычнага музея.**

**Краязнаўчую дзейнасць У. Краснянскі пачаў яшчэ ў 1890 годзе, раскопваючы курганы ў Барысаўскім павеце, але якраз на віцебскі перыяд прыпадае пік яго навуковай дзейнасці. Невыпадкова У. Краснянскі і зацікавіў вядомага віцебскага краязнаўцу Аркадзя Падліпскага, які пачаў збіраць звесткі пра яго жыццёвы і навуковы шлях. У выніку нарадзілася брашура А. Падліпскага “Краязнаўца Уладзімір Краснянскі (1863—1930)”, што выйшла ў Віцебску. Каб гэтае выданне з'явілася, парупіліся Віцебскі абласны савет Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Віцебскі краязнаўчы фонд імя А. Сапунова.**

**Наклад выдання 500 асобнікаў. Выйшла брашура ў серыі “Жыццё выдатных людзей Віцебшчыны”.**

**В. ЗУШЧЫК**

## Ваяка Мішка і іншыя

**Выдавецтва “Юнацтва” не першы раз звяртаецца да выпуску лепшых твораў народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова. Цяпер тут выйшла кніжка “Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў”. Акрамя аднайменнай аповесці — займальнай, дынамічнай, з вострымі сітуацыямі, у зборнік увайшлі і добра вядомыя не аднаму пакаленню чытачоў апавяданні “Ядвісін дуб”, “Пра хлопчыка Яську”, “Янка-парашутыст”, “Васількі”.**

## На выставе маладых



**Разнастайнасцю стыляў і накірункаў вызначаецца выстава маладых мастакоў, якая адкрылася ў Рагачове. Сярод іх вылучаюцца работы ўрача Ганны Драгун. Дарэчы, яны дэманстраваліся ўжо ў Жлобіне і Мінску. Вучылася інкрустацыі саломкай па жывапісе, тэмперы Ганна яшчэ ў сваёй маці на Брэстчыне.**

*На здымку: Ганна Драгун са сваімі работамі.*

*Фота Сяргея* ***ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА***

# “Люблю, хвалююся — жыву!”

## Маргарыце ЯФІМАВАЙ — 70

***Думаю, што гэтая лічба для многіх будзе нечаканасцю. Усе мы, былыя студэнты філфака, можам засведчыць: Маргарыта Барысаўна з тых гадоў амаль не змянілася, яна такая ж актыўная і жыццярадасная. Юбілейная дата дала нам добрую нагоду пагутарыць — пра літаратуру, пра жыццёвыя вехі і творчыя захапленні.***



**— Маргарыта Барысаўна, вы, як мне здаецца, не толькі знаўца і прапагандыст, але і апалагет беларускай дзіцячай літаратуры. Не памятаю выпадку, каб вы нават у слабым творы не знайшлі чагосьці добрага.**

— Можа, і так, бо я і ў чалавеку імкнуся найперш убачыць лепшае. Гэтаксама і з кнігамі. Адчуваеш, што аўтар шчыра выйшаў на дыялог з чытачом, умее ўвайсці ў свет дзяцінства — і хочацца, каб ён не кідаў пяра. Нават калі не ўсё яшчэ ўдаецца... Аднак слабыя творы я не захвальвала. А вось абараніць дзіцячую літаратуру — такое ёсць! Мала хто ведае, якія скарбы яна мае...

**— Але ж і вы самі шмат робіце для таго, каб пра яе ведалі. Вы — аўтар першай манаграфіі і першага вучэбна-метадычнага дапаможніка “Беларуская дзіцячая літаратура”, шэрагу вучэбных праграм, адзін з рэдактараў і асноўны аўтар першага дапаможніка па дзіцячай літаратуры для студэнтаў ВНУ (першае выданне — 1966 г., другое — 1980). Вы ўдзельнічалі таксама ў складанні хрэстаматый для дзяцей і студэнтаў. Адну з іх мы нават разам з вамі склалі — яна мае назву “Акрайчык” (для 1—2 класаў). У канцы 96-га выйшла хрэстаматыя для педвучылішчаў — важная для вас і патрэбная для навучэнцаў кніга. Як працавалася над ёй?**

— Мы складалі хрэстаматыю разам з дачкой, кандыдатам філалагічных навук Вікторыяй Ляшук. Яна і друкаванне рукапісу на сябе ўзяла, і ў адборы твораў вельмі дапамагала. А працаваць над гэтай кнігай было і радасна, і балюча. Радасна, бо стала магчымым прадставіць нашу літаратуру для дзяцей больш markup рознабакова і поўна. За апошнія гады шмат вярнулася забытых імёнаў і, адпаведна, твораў. Не так проста было знайсці іх, шукалі па зборніках, па чытанках В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, Л. Чарняўскай, па перыядычных выданнях. А балюча было таму, што давялося дакрануцца не проста да кніг — да чалавечых лёсаў. Сярод іх нямала трагічных. 8 кніжак для дзяцей і 16 для дарослых выдаў да свайго арышту рэпрэсіраваны ў 38-м годзе вядомы ў тыя часы паэт Андрэй Александровіч. Было ж яму тады ўсяго 32 гады. Вярнуўся з выгнання праз семнаццаць гадоў маральна зламаны, хворы, амаль нічога не пісаў болей... І гэта толькі адзін лёс.

Хапала і іншых страт — непажаданых напластаванняў, дэфармацый, бо існавалі пэўныя ідэалагічныя рэгламентацыі, педагагічныя схемы і догмы. Аднак заўсёды бруіўся ў нашай дзіцячай літаратуры чысты струмень сапраўднага мастацтва. Сёння адбываецца яе канцэптуальнае абнаўленне. Усё гэта неабходна асэнсаваць, прааналізаваць, непрадузята ацаніць, тэарэтычна абгрунтаваць.

**— Кола даследчыкаў — ды і аўтараў — дзіцячай літаратуры вельмі вузкае. Літаральна адзінкі аддаюць ёй свой талент і сілы. Як вы лічыце, што можна было б зрабіць для пашырэння гэтага кола?**

— Думаю, што патрэбен спецыяльны навуковы цэнтр ці аддзел. Н а в у к о в ы! Пра гэта гаворка ішла мо сорак гадоў таму. Дзе ж той цэнтр? Няма ні яго, ні хаця б адной кафедры беларускай дзіцячай літаратуры. Між тым дастаткова пагартаць сучасныя школьныя чытанкі, каб пераканацца, што наша літаратура для малых нашмат цікавейшая і багацейшая, чым некаму здаецца. Варта таксама прыгадаць, што па ёй абаронена доктарская дысертацыя (Э. Гурэвіч). Значыць, ёсць пра што і пра каго пісаць!

**— І канечне ж, абараняюцца кандыдацкія. Ці не першай ластаўкай сярод іх была і ваша дысертацыя, прысвечаная творчасці Янкі Маўра.**

— Так, так... А скіраваў маю ўвагу ў гэты бок мой настаўнік, прафесар Юльян Сяргеевіч Пшыркоў. Навуковым кіраўніком стаў прафесар Ларчанка — другі мой шаноўны настаўнік. На абароне дысертацыі прысутнічаў сам Янка Маўр...

**— Самы час паўспамінаць, Маргарыта Барысаўна. Быў такі прадмет на філфаку — выразнае чытанне. Памятаю, як хораша вы чыталі вершы, як вучылі нас укладваць душу ў мастацкае слова. І кніга ў вас ёсць пра гэта. Адкуль у вас, скажыце, такая чуйнасць і любоў да роднага слова?**

— Мабыць, ад сям'і, ад бацькі. Дома ў нас панаваў сапраўдны культ музыкі і слова. Нярэдка наладжваліся імправізаваныя хатнія чытанні. Тата мой не проста дэкламаваў — ён інсцэніраваў творы з дапамогай мімікі, жэстаў, інтанацый, умеў падрабляць галасы птушак і жывёл. Гэтае захапленне засталося ў яго і тады, калі ён выкладаў у Гомельскім пелінстытуце. Там, побач з сур'ёзнымі моваазнаўчымі дысцыплінамі, ён вёў і выразнае чытанне, “для душы”. Бацька мой, дарэчы, з роду кавалёў, і прозвішча ў іх было Каваленкі. Мой прадзед паступаў у прыходскую школу, і ў яго спыталі: “Чый ты?” Ён і кажа: “Яўхімаў”. Так з'явілася наша новае прозвішча. Яно так прырасло да мяне, што я і ў замужжы не стала яго мяняць. Тым больш, што сыноў у бацькі, на жаль, не было...

**— Ну, а калі б не педагогам — кім бы вы маглі стаць?**

— Найпершая дзіцячая мая мара — стаць лётчыцай. Вось чаму мне асабліва блізкі верш Янкі Купалы “Хлопчык і лётчык”. Потым пацягнула да зямлі: была вельмі ўражана, калі на лапінцы зямлі пад нашым акном узышлі пасеяныя мною морква, гарох. Былі нават думкі трактарысткаю стаць, а ў вайну — хірургам.

Падчас эвакуацыі мы жылі ў Горкаўскай вобласці. Там я, гараджанка, навучылася жаць сярпом. Калі школьнай брыгадай дапамагалі калгасу, то я ўсіх апярэдзіла! І буханку хлеба атрымала ў якасці прыза.

**— Выходзіць, вы ва ўсім імкнуліся быць першай?**

— Не тое каб імкнулася... Само неяк атрымлівалася. З радасцю бралася за любую работу. У плуг, калі трэба, упрагалася і валакла. Я і па лыжах займала першае месца. Косы адно разляталіся ў розныя бакі...

**— Шырокі спектр, нічога не скажаш... Калі я чую па радыё ваш голас у перадачах для дзяцей, то думаю, што сапраўднае ваша прызванне — артыстка.**

— Яшчэ ў дзіцячым садку (у Оршы тое было) вельмі любіла чытаць вершы на памяць, удзельнічала ў невялікіх п'есах. Спявала, танцавала. Выходзіла на сцэну з адчуваннем святочнасці. У школьныя гады наведвала шматлікія гурткі — харавы, танцавальны. У вайну падлеткам выступала ў шпіталях, помню, як раненыя плакалі. Пасля аспірантуры — замужняй ужо, з двума дзецьмі — пайшла вучыцца ў музычную школу ў Магілёве, дзе тады жыла. А сцэнарыі пісала ды



УРАЖАННЕ

# Думкі цяжкія і лёгкія

Чаму так адбываецца, што калі пра нешта думаеш і выкажаш сваю думку, то гэта як дыхнуць і выдыхнуць — лёгка, натуральна. Але варта ўзяць у рукі аловак і выкласці гэтую ж думку на паперы, і здзівішся, перачытаўшы — думка быццам тая, ды толькі “быццам”, нейкая прыдуманая, прэтэнцыёзная думка робіцца... Гэта, напэўна, таму, што перад тым, як легчы на паперу, думка непазбежна праходзіць праз жорны “здаровага сэнсу”, шчыльна зnітоўваецца з мэтай, якую ставіць перад сабой аўтар. Такім чынам на паперы ўжо не зерне, а мука патрэбнага памолу...

Леанід Галубовіч у сваіх зацемках спрабуе абысці гэтыя жорны. Ён імкнецца выдаць “на гара” не муку, але зерне, якое выспявае ў ягонай душы. Ён свядома ігнаруе “здаровы сэнс”, свядома ўхіляецца, схіліўшыся над сваім нататнікам, ад усіх “мэтаў”. Акрамя адной. Каб адпусціць сябе, даць сваёй душы “вольную”: “Душа, вольна! Разыдзіся! Выказвайся, вытрасай, што там у цябе ў левай кішэні! Не саромейся, чаго тут... усе свае! Усё, усё вытрасай!..”

Канечне, Галубовіч не з'яўляецца пачынальнікам гэтага своеадметнага літаратурнага жанру. Дастаткова прыгадаць, напрыклад, В. Розанава і ягоныя “Опавшие листья” (цэлыя два “короба”!). Але там — расійскі інтэлігент канца XIX — пачатку XX стагоддзя, а тут — інтэлігент беларускі, ды яшчэ якая дыстанцыя ў часе! Безумоўна, і Розанаву, і Галубовічу дасягнуць сваёй запаветнай адзінай мэты ўдаецца не заўсёды. Але калі чытаеш чарговую зацемку, і дачытваеш яе, і відавочна, што спроба паспяховая, тады аўтар, паралельна са сваёй жаданай мэтай, дасягае і і шмат іншых. Які з пісьменнікаў не хацеў бы, каб ягоны твор прымусіў чытача задумацца аб свеце і аб сабе самім? Але хацець — адно, зрабіць — зусім іншае. Адна з зацемак Галубовіча гучыць так: “Літаратура — гэта тое, што павінна балець чытачу, а не тое, што баліць літаратару”... Менавіта так! Можна чытаць тоўсты раман, напісаны з болем (і з болем сапраўдным!) і, дачытаўшы, адразу ж забыць яго. Бо прайшоў ён па душы “по касательной”. А бывае, што прачытаеш нейкую там “зацемку”, некалькі ўсяго радкоў — і як даўбешкай табе ў лоб заехалі! Патрасеш галавой, палыпаеш вачыма: і баліць, і радасна адначасова да слёз — дзіўнае пачуццё! І потым ходзіш з гэтай зацемкай у галаве, дастанеш, прыгледзішся, зноў пакладзеш... І ніяк не можаш ужо ад яе пазбавіцца. Ды і не хочаш. Бо яна ўжо стала **тваёй**. Бо яна табе ўжо **баліць**. Нібы на мазоль “любімы” наступілі. Не Галубовіч націр мне гэты мазоль, ён у мяне ўжо даўно быў. Але я ўжо звыкся, забыўся пра яго, ён дзесь там, у падсвядомасці асеў. Але Галубовіч так рэзка да яго падступіўся, так “спраўна” наступіў, што зрабілася балюча і мне, чытачу. Толькі такім чынам, шукаючы мазалі, і можа дабрацца сапраўдная літаратура да чытача. А ў каго мазалёў няма ўвогуле, тых, зразумела, не праймеш...

Свабода, вольнасць выказвання плюс лаканізмы, памножаныя на пільны мастацкі зрок — вось сціслая характарыстыка зацемак Л. Галубовіча. А ўлічваючы іх ККД (каэфіцыент карыснага дзеяння), мы абавязаны лічыць лепшыя з іх сапраўднай літаратурай. Напрыклад, вось гэтыя:

“Усё сваё жыццё я многа чытаў і пакуль яшчэ чытаю. Але незваротна слабее зрок, з кожным днём усё адчувальней. Ужо не магу чытаць газет, аддрукаваных дробным шрыфтам. Нават у акулярах. Уся с л е п а т а наша — менавіта ад чытання ш т о д з ё н н ы х г а з е т...” (11 ліп. 97 г.).

“Усе кніжкі, як і людзі, і формай і зместам падобныя адна да другой. Але чым больш чытаеш кніг, тым менш пазнаеш людзей, і — наадварот”... (31 кастр. 87 г.).

Альбо ўзяць зацемку пра “жывога нябожчыка” (11 ліп. 97 г.). Аўтар расказвае пра трагічны выпадак у метро з прыціснутым да платформы чалавекам, які жудасна крычыць аб дапамозе, а дапамагчы ніхто не можа, і ўсе спяшаюцца “хутчэй сысці”! Аўтар не прыдумаў, а што значна мацней — **убачыў** гэтую трагедыю як сімвал нашага жыцця. “Заціснуты між быццём і бытам, радасцю і нягодамі, днём і ноччу, святлом і цемрай... — крычыць чалавек... Каму?.. Да каго?..” Які жудасны сваёй гранічнай выразнасцю сімвал! У імкненні да падобнай выразнасці, аголенасці сваіх сімвалаў і вобразаў Л. Галубовіч вельмі часта даходзіць да рызыкоўнай мяжы. Ягоная логіка, вострая, як лязо, адным махам рассякае старанна падмаляваны намі труп нашай рэальнасці: “...Хто адважыцца сказаць, што ён пражыў шчаслівае жыццё, той несусветны хлус. Хіба шчаслівае жыццё павінна канчацца смерцю?! А яно ж канчаецца...” (11 ліп. 97 г.).

Але мяжа — гэта такая рэч, якая абмяжоўвае. Усё мае свае законы, г. зн. — межы. Парушыўшы хаця б адну мяжу, непазбежна прынясеш сабе шкоду. Асабліва ў мастацтве. Святло і цемра, высокае і нізкае, натуральнае і знарачытае — яны могуць

## ЛіМ ЧАСАПІС

## Першы з шасці

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачало выпуск Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы ў шасці тамах. У гэтыя пераднавагоднія дні пабачыў свет першы том (прадмова, укладанне і каментарыі Сцяпана Лаўшука). Змест кнігі склалі вершы і байкі, што ў свой час змяшчаліся ў кнігах К. Крапівы "Асцё", "Крапіва", "Байкі", "Ухабы на дарозе" і іншых, а таксама некалі вельмі папулярныя яго паэмы "Біблія" і "Хвядос — Чырвоны нос".

## Зноў пачуюць нас на Няве

Як вядома, у колішнім Ленінградзе часта перакладалі, друкавалі і выдавалі беларускіх пісьменнікаў. Нават існавала вядомая школа ленінградскіх перакладчыкаў, у якой сузор'ямі першай велічыні ззялі імёны Мікалая Браўна, Арсенія Астроўскага, Браніслава Кежуна, Аляксандра Пракоф'ева. Цяпер няма Ленінграда, а ў Санкт-Пецярбурзе добрая традыцыя... Не, не забыта, а, здаецца, адраджаецца. Санкт-Пецярбургская арганізацыя Саюза пісьменнікаў Расіі вырашыла аднавіць яе. І першым крокам у гэтым кірунку стаў пераклад твораў Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка і Алеся Пісьмянкова вядомым рупліўцам на ніве руска-беларускіх літаратурных сувязяў і кантактаў Іванам Сабілам. Іх вершы, а таксама проза і паэзія іншых аўтараў будуць апублікаваны ў бліжэйшы час у часопісе "Аврора". А пакуль, каб зацікавіць чытачоў, вершы С. Законнікава, В. Зуёнка і А. Пісьмянкова ў перакладзе І. Сабілы змешчаны на старонках спецыяльнага рэкламнага буклета, падрыхтаванага Бюро прапаганды Санкт-Пецярбургскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі сумесна з камп'ютэрна-паліграфічным прадпрыемствам "МиР".

## Не на сёння, дык на заўтра

Выдавецтва "Беларуская навука" выпусціла "Руска-беларускі слоўнік газа- і нафтаздабычы", аўтарам якога з'яўляецца Уладзімір Люхцік. Міжволі падумалася: слоўніку трэба было з'явіцца раней, калі працэсы беларусізацыі набывалі імпэт. У рэшце рэшт, так яно і павінна было быць: згаданы слоўнік выдавецтва "Навука і тэхніка" планавала выпусціць яшчэ ў 1994 годзе. Але давялося даводзіць пачатую справу да канца "Беларускай навуцы". Ды — лепш позна, чым ніколі. Няхай слоўнік не асабліва будзе запатрабаваны сёння — на жаль, як мы ведаем, многія цяпер зноў адчулі сябе "рускімі", затое заўтра ён будзе вельмі дарэчы. А што так будзе, сумнявацца не даводзіцца. Таму, па магчымасці, "Руска-беларускі слоўнік газа- і нафтаздабычы" прыдбаць не лішне. У першую чаргу навуковым работнікам, выкладчыкам і студэнтам, работнікам выдавецтваў, радыё і тэлебачання, з разлікам на каго і рыхтавалася гэтае надзённае выданне.

## Пад назвай "ТВТ"

У выдавецтве "Юнацтва" перавыдадзены асобныя творы класіка нацыянальнай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра. Назву кнізе дала аповесць "ТВТ", якая, калі расшыфраваць гэтыя літары, як вядома, гучыць так: "Таварыства ваяўнічых тэхнікаў". Дарэчы, яна з'явілася раней знакамітага "Цімура і яго каманды" Аркадзя Гайдара і на ёй выхоўвалася не адно пакаленне дзяцей. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў чытачоў і яшчэ дзве аповесці Я. Маўра, што ўвайшлі ў гэты зборнік, — "У краіне райскай птушкі" і "Сын вады".

## "Айвенга" па-беларуску

Папулярны раман Вальтэра Скота "Айвенга" выдавецтва "Полымя" выпусціла ў перакладзе Л. Забалоцкай на беларускай мове. З'яўленне гэтага твора ў "Школьнай бібліятэцы" нельга не вітаць, бо ў рамане, як вядома, адлюстраваны падзеі, якія адбываюцца ў глыбокай мінуўшчыне. А добрае веданне гісторыі іншых народаў адзін са штуршкоў для лепшага авалодвання і сваёй.

ПАЭЗІЯ

Віктар ГАРДЗЕЙ



# З кнігі лірыкі "Межань"

●

*Даўно зарніцы на пачатку мая*
*Не крэслілі далёкі небасхіл,*
*І ў бляску іх жуда гняце нямая,*
*І бачны знак якіхсьці тайных сіл.*

*За тры гады — ў стагоддзя на зыходзе*
*Магчымы буры, голад, мор, аднак*
*Прароцтвы Настрадамуса ў народзе*
*Не ведаюць, і, можа, лепей так.*

*Нязвыкла ўсё ж — зарніцы ды без грому.*
*Лінуў бы дождж — прырода ажыла б.*
*Мне ў позні час не хочацца дадому:*
*Пад бляск зарніц гучней канцэрты жаб.*

*Па тым, што вечар дорыць, прыкмячаю:*
*Быць цеплыні, і мне надзей стае,*
*Бо і душа, замёрзлая з адчаю,*
*Слязінкамі на вейках растае.*

●

*У садзе сваім, дзе ў начной*
*Цішы — кары водар горкі,*
*Як вязень праз краты, з журбой*
*Гляджу на далёкія зоркі.*

*Я іх пазнаю, і дарма*
*У зорак прасіць суцяшэння.*
*Тут хата стаяла — няма.*
*Тут морак і быль запусцення.*

*Пайшлі і ратай, і сявец,*
*Прапалі іх клуні і гумны.*
*Звычайны ў сялібаў канец,*
*Ды надта балючы і сумны.*

*Тут зоркам свяціць давідна,*
*І ціш — як у бочцы бяздоннай,*
*І ўсё ж на пралёт кажана*
*Уздрыгваюць яблыні сонна.*

●

*З тваіх лугоў за дымнай павалокай*
*Не рваў я кветак, не насіў табе,*
*І вось цяпер, у сталасці глыбокай,*
*Дакор праз даль запознена скубе.*

*У шале фарбаў каля вербаў ніцых*
*Тых летніх красак не злічыць усіх,*
*Ды як забыць мне водар медуніцы*
*З пялёсткамі пад колер губ тваіх!*

*Было, сплыло — гляджу праз даль з журбою,*
*Бо ў гарчаках на чэрвеньскай слаце*
*Там, у лугах, якраз для нас з табою*
*Даўно ўжо медуніца не цвіце.*

●

*Боль і горыч, як і быць павінна,*
*Бо ў нябёсах вызначаны лёс.*
*У самоце і спакусе віннай*
*Новы дзень усмешкі не прынёс.*

*На сябе, на жаль, не глянеш збоку,*
*Вось і ходзіш, знішчаны датла.*
*Кажуць, я пясняр журбы і змроку,*
*Хоць душа ірвецца да святла.*

*Ты, мая бядовая, ці помніш?*
*Марна жыў, а заўтра жыць марней.*
*І па шкле зноў барабаняць промні*
*Гэтак жа маркотна, як раней.*

*На ваду не стану дзьмуць, магчыма,*
*Хоць апёкся быў на малацэ.*
*Новы дзень, і — торба за плячыма,*
*І жабрацкі посах у руцэ.*

●

*Журба мая, з душой незагрубелай*
*Жыву ў лясах, і я тут не адзін:*
*То з-за бяроз махнеш ты хусткай белай,*
*То выскачыш цыганкай з-пад рабін.*

*І больш, павер, няма ніякіх звестак:*
*Адкуль, чыя — ці пані, ці раба?*
*Цнатліва-сарамлівая нявеста,*
*Дай вусны мне, бо ты — мая журба!*

●

*Царства ценяў безгалосых.*
*Царства дня, а не начы!*
*Дрэвы вымыліся ў росах,*
*Цені ў травы кладучы.*

*Хто ж тут я — пусты, цвярозы?*
*Стань ля гаю — глянь наўскрай:*
*Мабыць, гэта цень бярозы,*
*На якой варонін грай?*

*Блізка поле. Луг чмяліны.*
*Стань на сонцы і пабач:*
*Можа, гэта цень яліны,*
*На якой сядзіць крумкач?*

*Згодзен я: адлетуценіў.*
*Справіў баль у час чумы.*
*Царства дня — то царства ценяў.*
*Царства ночы — царства цьмы.*

●

*Вечар, як вецер, празрысты і свежы*
*Цэдзіць лагоду, і дыхаць лягчэй.*
*Вецер, як вечар, што ў сіняй адзежы,*
*Дзесь у лістоце журчыць, бы ручэй.*

*Зорыцца неба, і вось саматканы*
*Млечнага Шляху расслаўся ручнік.*
*Свету ўладыка, з душой пяднаны,*
*Вытра ім заўтра свой літасны лік.*

*Думаць ці трэба аб страчаным нечым?*
*Каецца грэшнік і плача святы.*
*Вечар ды вецер! І меней сінечы —*
*Болей, заўважна, між дрэў чарнаты.*

*Помню, чаго я стаю ў засмучэнні,*
*Знаю, аднак: тут яны ні пры чым —*
*Вечар у жнівеньскім зорным свячэнні,*
*Вецер у ціхім журчанні начным.*

●

*Азалеа чырвань на каліне,*
*Ды і дождж ужо не грыбасей.*
*Сёння з болем у пралётным кліне*
*Налічыў я толькі сем гусей.*

*Рэч не ў тым, што шэрыя нябёсы,*
*І не трэба сумных мне сустрэч;*
*Праплываў у крыўдзе жур бялёсы,*
*Ды маўчаў, і вось у гэтым рэч.*

*Тут, за Вязынкаю, на пагорках,*
*Дзе стаяць Купалавы дубы,*
*Як убачыў — уздыхнуў я горка:*
*Крыл узмах паволыны і слабы.*

*Дай вам Бог вярнуцца без урону,*
*Ды крычы ж, важак, перад людзьмі!*
*Будзе сніцца мне цяпер да скону*
*Клін гусіны лікам да сямі.*

●

*Няма і дня, каб сэрца не шчымела,*
*Махну рукой — прыйшла згрызот пара.*
*І невядома, што ў смузе знямелай*
*За адрыўным лістком календара?*

*Мінае дзень, і пахне добрай лазняй.*
*Але даўно я да згрызот прывык.*
*Чым ноч бліжэй, дык чуецца выразней*
*Савіны рогат і змяіны сык.*

*Прашу саву: жудою не адорвай!*
*Сарву лісток — ляці, пакутнік мой!*
*І там, дзе ён вісеў, чарнее прорва,*
*І ў прорве кішма змей перад зімой.*

●

*Калісьці і я быў вясёлы —*
*Цяпер успаміны адны.*
*І трубяць з нябёсаў анёлы,*
*І скача ўжо конь вараны.*

*Грывасты, імклівы, мой косю,*
*Цябе я згадаў і — бывай!*
*Не думай: і мне давялося*
*Паклажу цягнуць цераз край.*

*Вядома ж, не з долі харошай*
*Прапіты апошні талан.*
*Сляды замятае парошай,*
*Ці зрокавы, можа, падман?*

*Мой косю, без ценю каварства,*
*Калі абяцаў, дык гатоў*
*Аддаць я і сёння паўцарства*
*За прывідны звон капытоў.*

Аўгіння КАВАЛЮК



# "Не спі, душа..."

●

*Салодкіх сноў салодкія гадзіны...*
*Каля свайго агню не апячэшся.*
*Так, ты ў мяне — як край, адзіны,*
*Ад гэтага не адрачэшся.*

*Ды і нашто ад любых адракацца?*
*Хіба ў самотнасці здурэць?*
*Хапіла б сілы за любоў змагацца,*
*Калі б прыйшлося нават і згарэць.*

●

*Маўчаць таемна хвоі,*
*Стваловў свіціцца медзь.*
*Тут нешта незямное,*
*А што — не зразумець.*

*Уздыхае ціха поле,*
*Духмяніцца лужок.*
*Рака плыве паволі,*
*Цалуе беражок.*

*Не спі, душа, прачніся,*
*Кут гэты палюбі,*
*Наўкола азірніся,*
*Расіцы прыгубі.*

●

*Апалі леташнія росы,*
*Схавалі срэбра ў моры траў.*
*Нязменныя законы лёсу,*
*А лёс наш лепшым не,*
*не стаў.*

*Нам не ў палітыкаў вучыцца,*
*Як на зямлі сваёй пражыць,*
*Якому богу нам маліцца,*
*Якою мовай гаварыць.*

●

*Ой, так не проста, так не проста*
*Пярэчыць думкам земляка.*
*Мы то на мосце, то пад мостам*
*І пад ухіл цячэ рака.*

*А хто яе, раку, запрудзіць,*
*Хто дапаможа выжыць ёй?*
*Усе імкнуцца толькі брудзіць*
*Ці перайсці на бераг той.*

●

*Адно прыслухаюся — зноў*
*Я адчуваю таямніцу слоў.*
*Бы жыта, словы высяваюць,*
*Бы жыта, словы выспяваюць.*

*О, як жа словы не выносяць,*
*Калі іх топчуць,*
*пляжаць,*
*косяць!..*

## Маці

*У яе такі чулліvы сон —*
*На тое мо і маці,*
*Каб плач або пакутны стогн*
*Пачуць свайго дзіцяці.*

*О маці, маці, ты душой*
*Дзіця сваё вартуеш,*
*Ад непамыснасці людской*
*І ад бяды ратуеш.*

*Ратуй, бо сёння з той бяды*
*Не вырвацца народу.*
*Ён з'еў атрутнай лебяды*
*З чужога агароду.*

## *Каб любіць мову родную…*

**Выдавецтва клуба "Спадчына" выпусціла кнігу-альбом з мастацкага збору Анатоля Белага "Любіць Радзіму — шанаваць родную мову". Як вядома, заснавальнік і нязменны кіраўнік гэтага клуба А. Белы даўно займаецца збіраннем твораў выяўленчага мастацтва. Цяпер ён вырашыў многія творы са сваёй калекцыі вынесці на суд прыхільнікаў мастацтва. Нарадзілася ідэя стварыць кнігу-альбом, на старонках якой былі б прадстаўлены рэпрадукцыі найбольш значных твораў.**

**Назва кнігі — невыпадковая. Такую ж назву мелі і выставы твораў са збору А. Белага, якія ў свой час прайшлі ў Палацы культуры МАЗа, на філфаку БДУ, у мінскім Доме літаратара.**

**Любоў да мовы, павага да багатай нацыянальнай гісторыі і найвыдатнейшых сыноў Бацькаўшчыны ў гэтай кнізе раскрываецца праз мастацкія вобразы, створаныя беларускімі мастакамі. Аўтарамі твораў, з якіх зроблены рэпрадукцыі з'яўляюцца Я. Ціхановіч, В. Асташонак, М. Купава, А. Крывенка, Ю. Хілько, браты У. і М. Басалыгі, Э. Агуновіч, В. Стасевіч, Я. Бусел, А. Кашкурэвіч, П. Драчоў, У. Васюк, У. Крукоўскі, М. Якунін, Л. Алімпіеў, Г. Мацур, С. Саркіцаў, М. Стома, В. Смоляк, Г. Грак, С. Герус, М. Рыжы, А. Лось, Р. Сіпліевіч… На іхніх работах адлюстраваны выявы як выдатных дзеячаў мінуўшчыны, так і тых, хто сумленна працаваў і сёння працуе на ніве нацыянальнага Адраджэння.**

**Як сведчыць у прадмове "Пэндзаль служыць Адраджэнню" доктар гістарычных навук Л. Лыч, у кнізе няма ніводнага твора, які стаяў бы ў баку ад нашай агульнанацыянальнай справы. Калі не ўсе, дык абсалютная большасць малюнкаў заслугоўвае таго, каб быць змешчанымі ў самых людных месцах нашых гарадоў і вёсак, унутры памяшканняў прадпрыемстваў і ўстаноў, бо будзяць людзей ад летаргічнага сну, клічуць да актыўнай дзейнасці на карысць беларускай ідэі трэба не толькі вусным і пісьмовым словам, але і сродкамі выяўленчага мастацтва".**

**Фундавалі выхад альбома паэт Анатоль Бярозка і рэдактар часопіса "Полацак" С. Белая з ЗША, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.**

**І. ВЯРЭЙКА**

## *Незнаёмы дуэт*

**Падчас "Беларускай музычнай восені" ў камернай зале сталічнай філармоніі адбыўся канцэрт польскага кларнетыста Анджэя Годзэка і беларускага піяніста Алега Крымера.**

**Імя А. Годзэка мала вядомае шырокаму колу беларускіх аматараў музыкі. Што датычыцца А. Крымера — ён даволі часта выступае на філарманічнай сцэне. І вось — дуэт… У ягоным выкананні прагучала адметная праграма: элегічная Саната фа мінор Я. Брамса, Саната для кларнета і фартэпіяна К. Сен-Санса, вядомыя сучасныя творы — Саната для кларнета і фартэпіяна Ф. Пуленка ды "Пяць танцавальных прэлюдый" В. Лютаслаўскага, а таксама музычныя прэм'еры.**

**Тры п'есы для кларнета і фартэпіяна К. Пендэрэцкага сваёй афарыстычнасцю і дасціпнасцю выказвання прывялі залу ў захапленне.**

**Далікатна і вытанчана ў інтэрпрэтацыі А. Крымера прагучала сюіта для фартэпіяна "Пейзажы" Г. Гарэлавай. Аўтарку выклікалі на сцэну, і публіка прывітала яе бурнымі апладысментамі.**

**Добрых уражанняў было багата падчас канцэрта, які стаўся адной з яскравых старонак філарманічнага жыцця.**

**С. ЛАБАНАВА,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

## *Фестываль харэаграфіі*



**У Віцебску завяршыўся Х Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Уладальнікам Гран-пры фестывалю стаў саліст трупы танца Пекінскага харэаграфічнага інстытута Лю Джэн (Кітай).**

*На здымку: група "Мадэрн-балет "Галерыя" з Гродна ўзнагароджана прызам секцыі крытыкі "За творчы рост".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

МУЗЫКА

# Голанд — у Мінску

## ГЭТА ЗАСВЕДЧЫЎ VII ФЕСТЫВАЛЬ "АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ"

ЗДАНЬ блукае па нашых культурных абсягах: здань адраджэння.

Ужо нават і сябры "Залатога шлягера" ўлучыліся ў адраджэнцы: трэці год адраджаюць традыцыі савецкай масавай песні. Традыцыі зразумелага, звыклага, незабытага яшчэ ўсенароднага мінулага.

А вось рупліўцы і спадзвіжнікі Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла", якія ажно сем гадоў запар ладзяць свой фірмовы фестываль — "Адраджэнне беларускай капэлы", спрычыніліся да традыцый, у масавым маштабе ды ў святле сённяшняга дня, — нязвыклых. Традыцый малаўразумелага, ці то зламысна, ці то ненаўмысна забытага культурнага мінулага. Далёкага настолькі, што…

Што трэба быць сапраўды неабыякавым, дапытлівым, чыстым душою адраджэнцам, каб прыгледзецца і прызнаць у тым далёкім культурным мінулым — **сваё**.

Яно і праўда: не кожнаму карціць дазнацца-пашукаць каранёў гэтага неабдымнага сямейнага дрэва — дрэва стракатай і дзіўнай беларускай культуры. Не кожнаму наканаваны талент пачуваць сябе патрыётам, у здаровым сэнсе — **уласнікам** радзіннай зямлі з усімі набыткамі ейнай гісторыі.

Куды прасцей атаясамліваць уласны культурны радавод з тым, "што і ва ўсіх", штампаваць традыцыю паводле масавых клішэ, не зважаючы, якая ж у яе глыбіня і якая перспектыва.

Зрэшты, перапрашаю… І што гэта я раптам пачала параўноўваць працэсы адраджэння ў такіх розных музычных сферах? Усё адно як у спорце супастаўляць рэкорды шахматыстаў з перамогамі баксёраў ці футбольных каманд.

Блытаюся… А ўсё таму, што спрабую растлумачыць, хаця б для сябе, феномен дыскрымінацыі ў фестывальным плюралізме. "Ура!" шматаблічнаму культурнаму жыццю, але… Чаму адны фестывалі падтрымліваюцца ў нас і шчодрым рублём, і гучным галасам рэкламы, і афіцыйным пісьмовым прывітаннем, і асабістай увагай высокага чынавенства, і зычлівым позіркам тэлекамер, і друкаваным словам — чаму на кон іншых, у мастацкаасветніцкім, у інтэлектуальным, у творчым сэнсе багацейшых і найболей каштоўных для духоўнага здароўя краіны (не кажу — дзяржавы), выпадаюць пераважна праблемы?

●

Дзіву даешся, наколькі незаўважна для старонняга вока пераадольваюць свае штогадовыя арганізацыйна-фінансавыя праблемы чыннікі фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы". Вось і адмысловую вандроўку з Янам Голандам прыдумалі-спраўдзілі. Гэткае рамантычнае і пазнаваўчае падарожжа. Па лабірынтах музычнай гісторыі. Па старонках творчасці Голанда і ягоных сучаснікаў. Па канцэртных пляцоўках Мінска.

І, канечне, было падчас такога падарожжа публічнае адкрыццё новай (забытай старой) музыкі. Прынамсі, адбылося знаёмства з першай, доследнай Голандавай "гукавой манаграфіяй". І, як гэта заўжды ўдаецца "Беларускай Капэле", знаёмству спрыялі не толькі слыхавыя ўражанні, але і эмацыйна асэнсаваныя факты.

І дасягалася суладдзе сэрца, розуму, духу…

У гэтым суладдзі — выданне кароткага нарыса жыцця і творчасці Яна Давіда Голанда. На працягу многіх гадоў шукала-вывучала даследчыца Вольга Дадзіёмава матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю кампазітара. Працавала з рукапісамі ды першымі нотадрукамі — па сховішчах Польшчы, Летувы, Германіі, Бельгіі, адчуваючы пэўную падтрымку Міністэрства культуры, "Беларускай Капэлы", Фундацыі імя Ю. Мяноўскага, Беларускага Фонду Сораса… І спадзяюцца на працяг працы, якая вядзецца ў межах праграмы "Вяртанне", што распрацавана ў Беларускай акадэміі музыкі (кафедра беларускай музыкі).

У гэтым суладдзі — перакладчыцкая праца Уладзіміра Мархеля ды Васіля Сёмухі, дзякуючы якім вершаваныя тэксты твораў Голанда загучалі па-беларуску.

У гэтым суладдзі — нязгледны для "спажыўцоў цудоўнага" падрыхтоўчы клопат мастацкага кіраўніка "БК" Віктара Скорабагатава, музычных кіраўнікоў канцэртных праграм Уладзіміра Байдава ды Арыядны Гужалоўскай, музычнага рэдактара Наталлі Собалевай і ўсіх (нешматлікіх!) тых, хто дапамагаў у арганізацыйна-тэхнічных справах.

У гэтым суладдзі — захапляюча пазнаваўчы, жывы каментарый да канцэртаў (В. Дадзіёмава, В. Скорабагатаў) ды захапляюча пазнаваўчая сустрэча з жывой музыкай. У выдатным (а на гэтых фестывалях інакш і не бывае!) выкананні.

●

Гэта быў першы ў практыцы "БК" манаграфічны фестываль і прысвячаўся ён, як вядома, творчасці кампазітара нямецкага паходжання Ёгана (па-тутэйшаму звалі Янам) Давіда Голанда, чыё доўгае жыццё зрадніла з жыццём ды культурай зямлі беларускай. Амаль паўстагоддзя працаваў ён тут, да скону.

Вядома нашаму чытачу і тое, што праграма кожнага з чатырох фестывальных канцэртаў складалася адпаведна канкрэтнаму перыяду жыцця Голанда: нібыта ўзнаўляла музычную атмасферу Гамбурга, Нясвіжа, Вільні…

Гамбург 70—80-х гадоў XVIII стагоддзя, часоў Голанда, славіўся як асяродак інтэнсіўнага тэатральна-канцэртнага жыцця, музычнай навукі ды педагогікі, як цэнтр арганнага мастацтва. Ёган Давід меў пасаду дырэктара музыкі гамбургскай кафедры, ягоныя творы выконваліся ў канцэртах і друкаваліся ў зборніках. Ён супрацоўнічаў з такім буйным у той час і ўплывовым музыкантам, як Карл Філіп Эмануіл Бах.

І менавіта Рэ мажорны канцэрт К. Ф. Э. Баха стаўся першым нумарам першага фестывальнага вечара, своеасаблівай уверцюрай, у якой зніталіся многія тыповыя для музыкі асвечанай і асветніцкай Еўропы прыёмы, стылёвыя звароты. Яны рабілі роднаснай кампазітарскую мову ўсіх тагачасных прафесійных еўрапейскіх творцаў, у тым ліку й нашых землякоў.

"Гамбургскі" Голанд паводле праграмы, выкананай ансамблем салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, салісткі-спявачкі Лесі Лют, Таццяны Варапай, Рыгора Палішчука ды Віктара Скорабагатава, паўстаў гэткім вынаходлівым і строгім нямецкім настаўнікам.

"Гульня без карт, або Гарманічныя гутаркі для пачаткоўцаў для клавіра з дзвюма скрыпкамі" — гэта зборнік песень ды інструментальных п'ес. Бясхмарная жыццярадасная лірыка, якую жывяць рамантычныя, пастаральныя, застольныя, міфалагічныя матывы, пераствораная У. Байдавым для салістаў і саліднага інструментальнага складу, нагадвала кілім, сатканы са светлых вобразаў кахання, весялосці, летуценнасці… Хацелася нават, каб яны змянялі адно аднаго без паўзаў і перапынкаў — "Пачуцці пастушкі", "Гавот", "Ідылія", "Менуэт"…

У Нясвіжы Голанд працаваў з 1782 па 1802 год. Іншая краіна, новае асяроддзе. Чыннікі фестывалю парупіліся даць слухачам адчуванне вандроўкі ў часе і ў прасторы: канцэрт адбываўся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, дзе тады толькі-толькі адкрылася выстаўка "Мастацтва Міншчыны XVI—XVIII стагоддзяў". А музычную атмасферу нашай некаранаванай сталіцы, у якой апынуўся Голанд, прыняўшы запрашэнне працаваць прыдворным капельмайстрам Нясвіжа, мусілі стварыць уключаныя ў праграму "Марш" ды тры мажорныя паланэзы Мацея Радзівіла.

Дарэчы, гэта на ягонае, Мацея Радзівіла, лібрэта стварыў Ян Давід оперу "Агатка, або Прыезд пана", фрагменты якой прагучалі ў канцэрце. Вобразы "Агаткі", неаднойчы абгаворанай на старонках нашага тыднёвіка і ўвасобленай у грунтоўны радыёзапіс, ажылі ў яскравым выкананні Лесі Лют, Рыгора Палішчука, Віктара Скорабагатава ды ансамбля "Класік-Авангард". Хоць зараз апранай іх у тэатральныя касцюмы, рабі дэкарацыі — і на сцэну: гатовы спектакль!

Педантычны нямецкі настаўнік Голанд нібыта набыў на службе ў капрызлівага нясвіжскага магната моцартаўскую лёгкасць, італьянскую пачуццёвасць і… Што за дзіўныя параўнанні! Голанд застаўся Голандам, толькі ўзбагаціў сваю "правільную" кампазітарскую мову рамантычнымі інтанацыямі, не ўласцівымі Еўропе таго часу, але ва ўсе часы ўласцівымі музычным традыцыям нашых земляў.

Сярод іншага напісаў ён і "Кантату ў гонар Ягамосьці Князя Караля Радзівіла", якая таксама прагучала для фестывальнай публікі, уразіўшы прыгожым дуэтам Алены Бундзелевай ды Таццяны Варапай плюс найдалікатным партнёрствам інструменталістаў пад кіраўніцтвам маэстра Байдава.

●

Маэстра, ці ж адбылася б гэткая вандроўка з Янам Голандам, калі б не вы? Арганізатар класнага калектыву, рэдактар, аранжыроўшчык, дырыжор…

Вось і ў падрыхтоўцы трэцяга канцэрта, "віленскага", лідзіраваў "Класік-Авангард" з Уладзімірам Байдавым.

1802—1825: гады жыцця Голанда ў Вільні. Тут ён выкладаў тэорыю музыкі на факультэце літаратуры і вольных мастацтваў пры універсітэце, кіраваў універсітэцкім хорам і аркестрам, займаўся творчасцю…

Пра культурнае асяроддзе Вільні; пра ўгрунтаваныя ў ім вялікакняжацкія традыцыі; пра ўплыў універсітэцкага духу на фарміраванне знаных асобаў у гісторыі, у мастацтве гаварыць можна доўга. Музыка ж не любіць шматслоўнасці. Яна гучыць — і ўжо зразумела, які розны і роднасны інтанацыйна-вобразны свет атуляў Голанда-віленчука.

Імправізацыйным вольным духам і пяшчотай павявала ад фартэпіянных мініяцюр Напалеона Орды ў тонкім густоўным выкананні Уладзіміра Дулава. Рамантычна, дасціпна, з гэтак знаёмымі хмурынкамі меланхалічнасці гучала музыка Міхала Клеафаса Агінскага — "Танцавальная сюіта", расквечаная далікатнымі тэмбрамі з палітры Байдава.

А сам "Голанд у Вільні" — гэта паланезы ды гавоты, менуэты ды кантрадансы; арыя Касі з оперы "Чужое багацце нікому не на карысць" (салістка Леся Лют). Бравурныя, святочныя, мажорныя… Традыцыйныя для свайго часу і асяроддзя?



●

Думка пра тое, што Ян Давід Голанд праз 250 гадоў пасля таго, як пакінуў зямны свет, апынуўся, нарэшце, у Мінску, высноўвалася з цягам фестывалю.

Голанд у Мінску — настала, назаўсёды! Гэтае перакананне выспела пасля кранальнага канцэрта, падрыхтаванага навучэнцамі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам выдатнага педагога Арыядны Гужалоўскай. Дзеці, якія гралі немудрагелістыя фартэпіянныя творы Голанда і якія проста слухалі канцэрт з каментарыем (В. Дадзіёмава), ужо не забудуцца на імя нашага дзіўнага творцы, які жыў і ствараў на памежжы стагоддзяў, на памежжы культур.

Голанд у Мінску… А інакш не збіраліся б пасля заканчэння фестывальнай вандроўкі па канцэртных пляцоўках сталіцы дапытлівыя даследчыкі, музыканты — на канферэнцыю "Ян Давід Голанд і культурныя каштоўнасці ягонага часу". Галоўная выснова з пяці дакладаў, у якіх размаіта адлюстраваўся кантэкст Голандавай эпохі, — выснова пра унікальнасць асобы гэтага творцы, якая злучыла ў сабе культуры розных гістарычных эпох, розных краін.

Ён доўга жыў і ўсіх, скажам так, заспеў: цяжка паверыць, але і Моцарт, і Ліст былі сучаснікамі Голанда! Розныя эпохі, стылі, жанры — ад Баха да кампазітараў-рамантыкаў паўплывалі на творчую асобу Голанда. Еўрапейца, чыя творчая спадчына ўлучае і нашу музычную гісторыю ў агульны, непадзельны кантэкст глыбінных традыцый еўрапейскай культуры. Гэтую спадчыну мы толькі-толькі пачынаем асвойваць…

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША*

ТЭАТР

# Да тых, хто ўжо ёсць

***Выдае на тое, што мінскія тэатральныя скандалы апошняга часу ў Дзяржаўным лялечным, Маладзёжным, Малым, Купалаўскім абмінуў... хіба "ЛіМ". Але ў тым, што з'яўляецца на старонках выданняў, нават самых нястрыманых, разабрацца не здолеў бы нават спанатраны звягайла-ўдзельнік; там, у трупах, сярод калегаў і родных сцен, няшмат хто здатны быў бы што-кольвек выснаваць; пра адну і адзіную рацыю гаварыць, здаецца, і цяпер не выпадае...***

***"Я буду гаварыць з вамі пра этыку", — мовіў на просьбу пра інтэрв'ю Леанід Хейфец, знаны расійскі рэжысёр і педагог, які наведаў родны Мінск і міжволі зрабіўся сведкам нашага калямастацкага вэрхалу.***

— Нямодная цяпер тэма? Яна пазначана ў Станіслаўскага цэлым раздзелам. Мо цяпер, калі паняцце гэтае забылася, а жыццё ніяк не спрыяе таму, каб яго ўзялі ды ўспомнілі, ёсць сэнс пра яго нагадаць? Здаецца, цяперашні стан тэатра, як і цяперашні час, вымагаюць зусім іншых тэмаў: вялікія хуткасці й перамены напружваюць нашу нервовую сістэму, здаецца, нешта важнае, вялікае, значнае праміНае нас, і трэба яго запыніць, злавіць, інакш застанешся за рысаю — поспеху, прызнання... За рысаю галечы, нарэшце. Я буду гаварыць пра этыку, згадаўшы ўвесь свой тэатральны досвед, пастаноўкі і асабліва дачыненні з калектывамі не адно маскоўскімі, але і польскімі, нямецкімі, французскімі... Глыбока памыляецца той, каму здаецца, што ў тэатры ўсё залежыць толькі ад рэжысёрскай ідэі (найадметнай), ад умення й здольнасці імкліва арганізаваць працэс (у тым ліку і пастановачны), вынайсці або купіць сродкі ўздзеяння на публіку... Гэта — памылкова. Але — гэта маладое стаўленне да тэатра. У маладосці ёсць велізарныя перавагі: яна імклівая, яна здольная да эксперыменту, эрэшты, у яе тонкая скура... Мы бачым змену пакаленняў. Мы робімся сведкамі іхняй бязлітаснай барацьбы... адно з адным! Не формы, не мастацкія тэмы, не эстэтычныя прынцыпы, — сутыкаюцца лбамі людзі розных мастацкіх пакаленняў! Яшчэ, здаецца, нядаўна нас агаломшыла: тыя, каго называлі шасцідзесятнікамі, цярпелі ад васьмідзесятнікаў. Маладзейшыя тапталі старэйшых. Сёння васьмідзесятнікі ўжо сталыя людзі, вядомыя, прызнаныя... Але наступнае пакаленне ці не возьмецца за іх з тым самым забіяцкім імпэтам, з якім яны таўклі ў каршэнь сваім бацькам? Усё гэта ўбога, не гістарычна, не мае пад сабой ні праўды, ні рацыі. Сённяшняе жыццё таксама ставіць свае пытанні. Не думаю, што яны вырашацца так, каб да тых, хто вырашае, у будучым не было прэтэнзій. Кожнаму наступнаму пакаленню здаецца, што кожнае папярэдняе пакаленне не зрабіла ўсяго магчымага. Гэта, увогуле, праўдзівае адчуванне. Але яно не павінна быць варожым, злым...



Яно мусіць быць гістарычным. Кожнаму пакаленню выпадалі свае ўмовы, свае абставіны, — па тэатральнай Маскве я ведаю гэта вельмі добра. Я вучыўся ў Папова і Кнебель, у людзей, якія выхоў-валі пачуццё пераемнасці пакаленняў; я вельмі добра ведаў, што такое старшакурснік, або рэжысёр, які паставіў два спектаклі, калі я — яшчэ ніводнага... Кожны спектакль — гэта напружанне волі, вялікая мужнасць і пераадольванне цяжкасцяў. Я глядзеў на старых рэжысёраў, — зубраў, мамантаў, гігантаў, але бачыў іхнія старыя цягліцы, не вострыя зубы, пажаўцелыя іклы. Пройдзены шлях, пражыта немалое жыццё і я, калі дасць Бог, буду... Такім. Я бачыў тэатры, чые трупы збераглі годнасць у дачыненнях са старымі лідэрамі, з правадырамі. Але я бачыў і іншае: як трупы раздзіралі аслабелых важакоў. Я ведаю, як трагічна старэў Станіслаўскі. Як фантастычна-магутна старэў Неміровіч-Данчанка: у свае восемдзесят гадоў ён паставіў адзін з лепшых расійскіх спектакляў, "Тры сястры". Я ведаю, якую годнасць выявіла трупа Вялікага драматычнага тэатра (Санкт-Пецярбург) у дачыненнях з ільвом рэжысуры Георгіем Таўстаноговым. Я сведка таго, як цяпер у Тэатры сатыры адметна ладзяцца стасункі з Валянцінам Мікалаевічам Плучакам (яму хутка дзевяноста). Як няпроста складаецца жыццё тэатра імя Маякоўскага, чый лідэр хутка адсвяткуе васьмідзесяцігоддзе...

Чаму я пра гэта пачаў, чаму я пра гэта кажу? Таму што назіраць сваркі, здрады, змовы балюча і крыўдна. У Беларусі — цэлыя групы рэжысёраў, якія ніяк не могуць знайсці сябе, якія выдатна працуюць па запрашэннях (у тым ліку і расійскіх), але ў сябе дома ніяк не сладзяцца, не спраўджваецца... Трупам, дарэчы, уласцівая зайздрасць: яны мяркуюць, што ў суседнім тэатры, горадзе, краіне — лепшыя ўмовы, рэжысура, крытыка... Трэба шукаць гармонію і дома. Дома трэба і можна гадаваць у сабе пачуцці пяшчотныя. Так, гэта несучасна. Сентыментальна перад абліччам агрэсіўнага "стагоддзя ваўкадаваў" паводле Мандэльштама. Але я — на баку Пушкіна, які пачуцці добрыя лірай абуджаў, — Пушкін мае рацыю перад усімі!

Зрэшты, мудрэйшае за ўсіх нас жыццё. Яно вучыць і навучыць... Але этыцы навучыць немагчыма. Яна далікатная, эфірная, сарамлівая. А мы бязлітасныя. Нам здаецца, што вынік усіх тэатралных высілкаў — толькі спектакль, што ён найважны, а ўсё астатняе не дужа важнае... Я быў сведкам раскідання МХАТа (працаваў там якраз у гэтую часіну). Не было і няма такой, мэты, дзеля якой варта было так сячы, так пілаваць па людскіх лёсах. І лёс абедзвюх палоў МХАТа такі: кожная да стагоддзя тэатра нажыла процьму вельмі і вельмі цяжкіх праблем. Пра МХАТ імя Горкага на чале з Таццянай Даронінай, на жаль, няма чаго сказаць з пункту гледжання эстэтыкі, — там цары эстэтыка антымастацкая. У МХАТа імя Чэхава на чале з Алегам Яфрэмавым таксама няма шчасця... Рассечана Таганка, распілаваны Ярмолаўскі тэатр... І гэта — наша культура! Я малю Бога, каб Беларусь забылася на рэвалюцыі, каб тэатры выгналі гэты прывід са сваіх сценаў. Хіба на сцэнах варта, але папляваўшы праз плячук... Варта людзям мастацтва адчуць сябе ў беларускай прасторы, варта ўсвядоміць і зразумець: іншых людзей — няма! І якія будуць, і ці будуць увогуле, залежыць сёння толькі ад тых, хто ўжо ёсць!..

**Леаніда ХЕЙФЕЦА**
**слухала Жана ЛАШКЕВІЧ**
*Фота Алены ГУДЫМ*

ГОСЦІ

# Магчымасці вясёлага відовішча

Толькі з першага погляду здаецца, што апрануўшы тэатральную маску на твар, акцёру лацвей іграць, бо вобраз нібыта зададзены маскай і ўвага гледачоў прыкута да яе. Маску насіць зусім не проста. Ёю, скажам, нельга абыякава круціць направа-налева, яе трэба пастаянна "падаваць на гледача". А прыдумаць пластыку цела пад тую ці іншую маску — найскладаная задача! Пластыка цела змяняе выраз маскі, змякчае ці абвастрае яго, існуе нібы адасоблена... Далёка не ўсім падуладнае майстэрства "маляваць карцінкі" маскай і, адпаведна, пластыкай цела. Бо чалавек у масцы ў прасторы сцэны існуе чарадой фіксаваных поз, жэстаў-карцінак, маленькіх стоп-кадраў, змантіраваных у вобраз.

Гэту "кухню" тэатра масак на вялікую карысць студэнтам Беларускай акадэміі мастацтваў паказалі французскія акцёры тэатра "De l'Esprit de Sel". Не толькі расказалі і прадэманстравалі, але, раскрыўшы свае чароўныя тэатральныя валізы з калекцыяй масак уласнага вырабу, далі магчымасць пачынаючым акцёрам у вобразах-масках паспытаць... імправізацыі. Тры дні французскія акцёры Вірджыні Шыманец, Бертран Санье і Філіп Альцье праводзілі адкрыты майстар-клас са студэнтамі Беларускай акадэміі мастацтваў, займаючыся і трэнінгам і эцюдамі.

Працэс стварэння маскавага персанажа хутчэй нагадвае вытворчасць мульфільма, чым звыклую рэпетыцыю спектакля. Карцінкі будучай анімацыйнай стужкі падаюцца ў бясконцай змене поз, а потым прыводзяцца ў рух рытмам змены кадраў-карцінак. Такса- ма і маскавы герой: яго тэхніка руху складаецца з амаль скульптурных паставаў, з рытму змены фіксаванай пластыкі.

А як, здавалася, лёгка, проста, натуральна ігралі самі французскія акцёры ў спектаклі "Уяўная камедыя"! Ён створаны паводле п'есы Лесажа "Чорная галава" для кірмашовага тэатра і мальераўскага "Лятаючага доктара". Яго прывезлі акцёры пры падтрымцы французскага пасольства і паказалі ў новым тэатры эстрады на вуліцы Маскоўскай у рамках Восеньскага франка-беларускага артыстычнага сезона.



Рэквізіт і дэкарацыі спектакля — белая шырма, грымёрныя столікі, валізы з касцюмамі і маскамі. Бясконцыя фарсавыя сцэнкі заляцання камічных персанажаў да нявесты-мегеры (пераапранутага мужыка) — яўна імправізацыйныя. Акцёры проста на сцэне каля шырмы на вачах у гледачоў хуценька пераапраналіся ў іншых персанажаў і вяртаваліся да нас з новай маскай на твары.

У другім акце жанр спектакля-рэпетыцыі яшчэ больш акрэслена зацвярджаўся, бо дамінантай яго становілася не п'еса Мальера, а працэс яе рэпетыцыі ўмоўнай вандроўнай трупай акцёраў. Яны збіраліся на "чытку". Потым у серыі эцюдаў віртуозна паказвалі этапы знясільнага мардавання трэнінгам, "працы" над спектаклем, у выніку чаго нараджалася лёгкая, летуценная імправізацыя масак Сганарэля, Люсіль і Валера. Галовы, рукі, ногі, тулавы акцёраў існуюць нібы адасоблена, "развінчана", расхістана і здольныя рухацца аўтаномна!

У спектаклі французаў не было асаблівага сэнсу, жыццёвага зместу, да якога мы прывыклі на сцэне. Ён дэманстраваў сілу і магчымасці вясёлай тэатральнасці. Еўрапейскі традыцыйны маскавы тэатр (які вырас на камедыі дэль артэ, французскім кірмашовым прадстаўленні і фарсе) зрабіўся жывой крыніцай прафесійнага майстэрства сучаснага акцёра, цэласнай, дэталёва распрацаванай сістэмай, шмат у чым закрытай для нашага тэатра і зусім не засвоенай нашымі акцёрамі. А, напрыклад, для акцёра тэатра лялек падобная тэхніка мусіць стаць азбукай прафесіі...

Ёсць яшчэ адна дэталь у французска-беларускай акцыі пад назвай Théatre de l'Esprit de Sel. Адна з яе ўдзельніц — Вірджынія Шыманец (Сіманэк, як вымаўляюць і пішуць французы) — беларускага паходжання, валодае беларускай мовай і вывучае гісторыю беларускага тэатра, наведваючы радзіму сваіх бацькоў не першы раз. Можа, варта і нам больш пільна ўглядзецца ў еўрапейскую традыцыю маскавага тэатра? Бо і наш, беларускі тэатр калісьці пачынаўся з імправізацый калядных масак Казы, Мядзведзя, Чорта, Мужыка. І прадстаўленні старажытных скамарохаў — гэта не толькі карагоды, песні, скокі, але і складанае мастацтва імправізацый з маскай, дасканалага валодання целам, голасам, пластыкай руху пэўнага стылю.

Практычнае асэнсаванне беларускай тэатральнай старасветчыны (як цэласнага традыцыйнага стылю) хораша прыдалося б сучасным артыстам.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**
*На здымку: Вірджыні Шыманец.*
*Фота Віт. АМІНАВА*

ПАМЯЦЬ

# "Хіба яго таемнае..."

***Многім прозвішча Міхася Каладзінскага нічога не скажа, але на мяне, артыста тэатра лялек, гэты чалавек зрабіў значны ўплыў. Як першы лялечны маэстра майго жыцця...***



*На здымку: М. Каладзінскі (у цэнтры) сярод выпускнікоў БАМа (БДТМІ) 1981 года.*
*Фота А. ВАЙНШТЭЙНА*

Калі чалавеку васемнаццаць гадоў, ён усё ўспрымае: і дрэннае, і добрае, і таленавітае, і не дужа таленавітае — у залежнасці ад выхавання і асяроддзя. Я зразумеў гэта ў 1966 годзе, калі прыйшоў у Дзяржаўны тэатр лялек рабочым сцэны і ўбачыў, што робіць Каладзінскі з традыцыйнай лялькай. Я быў, вядома, узрушаны і забраны гэтай "заразай" назаўсёды.

А час быў самага пачатку застою — палітычнага, сацыяльнага (балазе, сяк-так сцэну гэтая пошасць абмінула); пераможнага дваццацігадовага застойнага марафону.

Для такіх, як мы, — асфальтава-завадскіх беларускіх гультаёў, быў шлях ці ў п'янства, ці ў наркотыкі, ці ў камсамол. Ну, як цяпер замест камсамолу — у бізнесоўцы. А праз тэатр для чалавека, які меў схільнасць да мастацтва, з'яўляўся вялікі шанц адрынуць усё... Я гэты шанц выкарыстаў. У тэатры. Я стаў служыць і працаваць там, дзе мелася спраўдзіцца мая фантастычная мэта...

Я адразу стаў прыглядацца да таго, што гэты чалавек на прозвішча Каладзінскі робіць з лялькай, што робіцца з яго нымі гутаперчавымі пальцамі, з рукамі, з ягонай фігурай, паставай, выгнутай, як дрот, з тварам, з вачыма, якія пазіраюць на ляльку і даюць ёй энергію чалавечай душы. Я разумеў, што лялька ажывае і такой самай энергіяй сілкуе чалавека! Цуд!..

Каладзінскі ў адной руцэ трымаў ляльку, а другой ... фантазіраваў з кійкамі; вырабляў адмысловыя складаныя піруэты — так зрабіць з пункту гледжання неспрактыкаванага пачаткоўца (майго пункту гледжання) — немагчыма! Значыць, трэба... трэніравацца? Трэніравацца! Што я і раблю, прыходзячы дадому, але рукі не слухаюцца, нямеюць... "Трэба пяць гадоў пацягаць у руках гэтую "пачвару", каб з яе што-небудзь атрымалася", — кажа Каладзінскі. Я назіраю, падглядваю за ім. За шырмай. І пачуваюся траха не пачварай...

Міхась так захапляўся гульнёй сваёй лялькі, што іншым часам адыходзіў ад вобраза на кароткі тэрмін — і смяяўся, як быццам чуў смешны анекдот. Але як! Заўсёды гэта было ў межах вобраза, зместу, стылю і задумы рэжысёра.

Такой закаханасці ў ляльку я ні ў кога не сустракаў. Міхаіл Аляксандравіч перад спектаклем хвілін за дзесяць заўсёды сядзеў і нешта думаў-марыў, як радзянскі скульптурны персанаж... Мо прыдумваў, як сяброўакцёраў вывесці на імправізацыйную гульню!.. Ці гэта было сцэнічнае самаадчуванне? Але калі яно прыходзіла натуральна, тады для мяне, маладога, "Дзед і жораў", "Папялушка" і "Чортаў млын" былі самымі любімымі спектаклямі! Але ён пайшоў у акадэмію. Ці прынесла яму гэта задавальненне? Напэўна. Курсы, вучні, выкладанне, выхаванне... Але тэатр, на маю думку, згубіў найцікавейшага лялечніка-віртуоза. Перш як страціць яго назаўсёды. Смерць Каладзінскага да сёння здаецца нейкай нерэальнай, памылковай... Мо хіба яго таемнае, пра што не паспеў сказаць пры жыцці, выкажуць на сцэне яго аднадумцы-лялечнікі?

**Уладзімір ГРАМОВІЧ,**
**заслужаны артыст Беларусі**

ВАРУНКІ

*Бадай, усе мы ў дзяцінстве, спаймаўшы божую кароўку, пыталіся ў яе: "Калода, калода, што заўтра будзе: ці дождж, ці пагода? Калі дождж, дык сядзі, калі пагода, дык ляці..." І радаваліся, калі чырвоненькая ў белыя крапінкі кузюрка распрамляла крыльцы і злятала з нашай далонькі. А як жа! Значыць, заўтра будзе пагода, будзе сонца, значыць, заўтра зноў можна будзе гуляць у нашы дзіцячыя гульні-забавы...*

*Згадваецца і іншае. Скажам, аповесць Янкі Маўра "Чалавек ідзе". Пра тое, як чалавек са звера ператварыўся ў гома сапіенс. І найперш пра тое, як ён на гэтым шляху падпарадкоўваў сабе прыроду, як прыручыў агонь, зрабіўшы яго сваім сябрам і заступнікам, абаронцам ад звера і наступстваў надвор'я — холаду, ветру, дажджу, снегу...*

*Якое будзе заўтра надвор'е? Пытанне гэтае і сёння зусім неабыякавае ўжо даўно цывілізаванаму сучаснаму чалавеку. Кожнаму з нас. Можна падманвацца чуллівай песенькай аб прыродзе, у якой "нет плохой погоды", нават ціха мурлыкаць яе сабе пад нос, робячы што-небудзь, але тут жа кінуцца да рэпрадуктара і ўзмацніць гук, каб пачуць прагноз надвор'я на заўтра. Бо, што грахі ўтойваць, у прыроды, на жаль, бывае і кепскае надвор'е, і прытым даволі часта, і гэта нам псуе не толькі настрой, але і перашкаджае, рушыць нашы планы, не дае зрабіць тую ці іншую работу, а зрэдчас прыносіць бяду і гора. Не, спрадвечны чалавечы інстынкт залежнасці ад прыроды-надвор'я і сёння ў кожным з нас! Адно што пытаемся пра тое, якое будзе заўтра надвор'е, сёння мы не ў божай кароўкі, а ў сіноптыкаў.*

*Ну, а што мы ведаем пра людзей гэтай прафесіі, пра іх работу, пра тое, як яны здабываюць звесткі, каб штодня забяспечваць нас інфармацыяй пра надвор'е?*

*Карацей кажучы, мая суразмоўніца — начальнік Рэспубліканскага гідраметцэнтра Тамара ЦЯРЭШЧАНКА.*

# Што заўтра будзе: ці дождж, ці пагода?

**— Тамара Рыгораўна, пра нас, журналістаў, кажуць, што мы ведаем трошкі пра ўсё і нічога пра нешта канкрэтнае. Апошняе тычыцца і гідраметслужбы. Таму — што гэта такое, гідраметслужба? Якія яе мэты і задачы?**

— Наша служба забяспечвае практычна ўсе органы дзяржаўнай улады, усе галіны народнай гаспадаркі і насельніцтва дадзенымі пра фактычны стан і чакаемыя змены надвор'я і іншых элементаў гідраметэаралагічнага рэжыму, а таксама інфармуе пра хімічнае і радыеактыўнае забруджанне навакольнага асяроддзя. Мы складаем усе гідраметэаралагічныя прагнозы, у тым ліку і метэаралагічныя, па ўсіх абласцях і асобна па горадзе Мінску. Акрамя гэтага, мы выпрацоўваем каля 70 спецыялізаваных прагнозаў — для міністэрстваў, ведамстваў, народнагаспадарчых арганізацый, для прыватных структур. Займаемся мы і складаннем аграметэапрагнозаў (прагнозы ўраджайнасці, веснавога запасу вільгаці на палетках азімінаў і шматгадовых траў) і гідралагічных прагнозаў (тэрміны ўскрыцця рэк і максімальнага ўзроўню паводкі ў рачных басейнах, велічыні веснавога прытоку ў вадасховішчы), а таксама даём шмат даведак, парад і кансультацый.

**— Што ёсць у беларускай службе гідрамета? Якая яе сетка па Беларусі? Якімі тэхнічнымі сродкамі яна забяспечана і ў якім стане яны сёння?**

— На тэрыторыі нашай краіны, акрамя непасрэдна Рэспубліканскага гідраметцэнтра, ёсць абласныя і міжраённыя гідраметцэнтры, 24 спецыялізаваныя станцыі, 34 метэастанцыі, 135 гідралагічных пастоў. Акрамя гэтага, у Мінску, Брэсце і Гомелі ўстаноўлены метэаралагічныя радыёлакатары і аэралагічныя станцыі. На жаль, сёння Белгідрамет перажывае не лепшыя часіны. У тэрміновым тэхнічным перааснашчэнні маюць патрэбу ўсе метэастанцыі, пасты хімічнага нагляду на рэках і азёрах, пункты кантролю забруджанасці паветра. Апошнія некалькі гадоў сродкаў з бюджэту на набыццё новай тэхнікі і абсталявання нам не паступала. У выніку многія прыборы прыйшлі проста ў непрыгоднасць. А для таго, каб рабіць дакладныя прагнозы, усе метэаэлементы павінны быць дакладна замераны дакладна працуючымі прыборамі. Паверка ж прыбораў у нашай краіне не робіцца, для гэтага іх трэба везці ў Расію, што вымагае сёння нямалых сродкаў. Многія прыборы ў нас наогул не выпускаюцца. Скажам, тыя ж радыёлакатары. Яны ў нас працуюць больш як па 20 гадоў, даўно ўжо вычарпаўшы свой рабочы рэсурс.

Не вырашана ў нас праблема і аэралагічных назіранняў з дапамогай радыёзандзіравання. Яшчэ зусім нядаўна тры спецыяльныя станцыі (у Гомелі, Брэсце і Мінску) праводзілі зандзіраванне атмасферы чатыры разы ў суткі, сёння ж мы запускаем зонды адзін раз на дзень у Мінску і час ад часу ў Гомелі. Здараюцца дні, калі зонд у атмасферу не запускаецца наогул. Запуск яго каштуе недзе каля 60 долараў, і такія выдаткі нам сёння проста не па кішэні. Толькі дзякуючы дапамозе Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі (СМА) мы змаглі праводзіць зандзіраванне апошнім часам. Але, як ні цяжка, мы ўсё-такі працуем, рабочыя месцы сіноптыка, прагназіста, аграметэаролага, гідрапрагназіста сяк-так абсталяваны.

Літаральна ў снежні мы, нарэшце, атрымалі досыць ладныя сродкі з бюджэту, і таму з'явіліся спадзяванні на лепшае. Мы купляем зараз новую тэхніку, перааснашчаем сетку, наладжваем камп'ютэрную сувязь Рэспубліканскага гідраметцэнтра з абласнымі, што аблегчыць абмен інфармацыяй, паспрые хуткай перадачы штармавых і іншых катаклічных папярэджанняў.

**— Тамара Рыгораўна, наколькі дакладныя прагнозы надвор'я? На чым яны грунтуюцца? Вызначаеце вы іх самі ці карыстаецеся паслугамі Масквы, скажам?**

— Спынюся на метэаралагічных прагнозах, якія найперш цікавяць насельніцтва і якія перадаюцца па нашым Беларускім радыё каля 24 разоў на дзень. Паверце, бяруцца яны не са столі. Восем разоў на працягу сутак ва ўсім свеце выходзяць метэаролагі метэастанцый на спецыяльна абсталяваныя пляцоўкі і фіксуюць паказанні прыбораў і датчыкаў па самых розных параметрах прыроднага стану (тэмпература і вільготнасць паветра, атмасферны ціск, колькасць і характар ападкаў, характар воблачнасці, сіла і накірунак ветру і г. д.). Уся гэтая інфармацыя апрацоўваецца, кадзіруецца (існуе міжнародны код для перадачы метэаінфармацыі) і перадаецца ў нацыянальны цэнтр надвор'я. Там код расшыфроўваецца і ўсе звесткі пераносяцца на сінаптычныя карты. Сіноптык за суткі апрацоўвае каля 70 такіх карт. З нацыянальных цэнтраў надвор'я звесткі паступаюць у рэгіянальныя і ў міжнародны цэнтр. Адтуль яны распаўсюджваюцца па ўсіх краінах свету. Да нас прыходзіць інфармацыя з мэтэастанцый, размешчаных у краінах Заходняй Еўропы, Скандынавіі, Прыбалтыкі, Украіны і, само сабою, Расіі. Сіноптык на карце бачыць, як перамяшчаюцца цыклоны ці антыцыклоны, дзе праходзяць франтальныя падзелы. Маючы пад рукамі ўсе назіранні і дадзеныя вертыкальнага зандзіравання, так званыя высотныя карты, карты барычнай талаграфіі, звесткі са спадарожнікаў, усё гэта супастаўляючы і аналізуючы, сіноптык і складае прагноз надвор'я. Дзеля гэтага, натуральна, ён павінен мець досыць высокую прафесійную падрыхтоўку, ведаць фізіку, матэматыку, геаграфію. Такіх спецыялістаў-прагназістаў рыхтуе Санкт-Пецярбургскі гідраметэаралагічны інстытут. На геаграфічным факультэце БДУ таксама пачалася падрыхтоўка спецыялістаў-метэаролагаў, аднак пакуль што ўзровень іх падрыхтоўкі не надта высокі. Выйсце ёсць: у нас існуе дамоўленасць з Расіяй, у адпаведнасці з якой мы можам накіроўваць нашу моладзь на вучобу ў Санкт-Пецярбург.

Ну, а што да дакладнасці нашых прагнозаў, дык звычныя крыўдныя закіды ў іх адрас, яшчэ раз падкрэслю, беспадстаўныя. Спраўджанасць нашых прагнозаў для Мінска складае недзе 85 працэнтаў, а для Беларусі наогул — амаль 90. Пагадзіцеся, што гэта вельмі высокія паказчыкі. І яны не знізіліся і сёння. Заслуга нашага камітэта ў тым, што наша метэаралагічная сетка ў гэты цяжкі і складаны час усё ж не развалілася, станцыі і пасты ў асноўным зберагліся. Праўда, там памянела людзей, некаторыя станцыі пераведзены на статус пастоў, а аграметэапасты скарочаны, і ўсё ж, усё ж... Ну, а каб мы мелі, як калісьці, магчымасць пастаяннага зандзіравання атмасферы, пра што я ўжо гаварыла, дык дакладнасць нашых прагнозаў была б яшчэ вышэйшая.




**— Тамара Рыгораўна, ува ўсіх нас яшчэ на памяці сёлетні разбуральны ўраган. Памятаем мы і леташнія, і пазалеташнія паводкі, іншыя прыродныя катаклізмы, якія прынеслі нямала бяды. Метэаслужба магла б тут дапамагчы? Магла б загадзя папярэдзіць людзей, каб зменшыць разбуральныя вынікі стыхіі?**

— Гэта адна з важнейшых нашых задач — прадказанне стыхійных і небяспечных прыродных з'яў. І мы робім гэта. Толькі сёлета намі было складзена амаль паўтары тысячы папярэджанняў. Аднак, на жаль... Стыхійныя з'явы вельмі цяжка прадказаць. Як правіла, яны носяць лакальны характар і паўтаральнасць іх вельмі і вельмі малая. Ураган, які пранёсся над Беларуссю 23 чэрвеня, не назіраўся ў нас за ўвесь перыяд метэаназіранняў, даруйце за таўталогію. Сказаць, што мы сёлетні ўраган увогуле не прадказвалі, нельга. Мы прадказвалі вецер у 15—20 м/сек, а вецер, больш за 15 м/сек, лічыцца ўжо небяспечным. Горка, вядома, што так здарылася, але ўсё ж скажу, што мы недарэмна носім званне "вартавых надвор'я". Мы знаходзімся на кругласутачным дзяжурстве. Пры пагрозе ўзнікнення небяспечнай прыроднай з'явы мы стараемся давесці папярэджанне аб ёй (няхай гэта будзе вецер, засуха, паводка, туман, замаразкі, галалёд) да ўсіх амаль чатырох тысяч аб'ектаў народнай гаспадаркі, якія мы абслугоўваем.

**— Што ж, будзем спадзявацца на вас. Тым больш, што з прадказаннем нядаўніх вялікіх маразоў вы не памыліліся. Дакладна сказалі, і калі наваліцца мароз, і калі адваліцца...**

— Самы дакладны, найбольш верагодны прагноз — прагноз тэрмінам да 10 сутак. Ёсць месячныя прагнозы, ёсць нават сезонныя, у якіх падаецца агульная, сярэднестатыстычная характарыстыка і адхіленні ад нормы тэмпературы паветра і ападкаў. А што да апошніх маразоў, дык у нас такіх не было цэлае стагоддзе. Абсалютны мінімум для нашай зімы — мінус 38°. Гэта вельмі нізкія тэмпературы, паўтаральнасць іх малаверагодная. У нас пераважае заходні перанос паветраных мас. Клімат у нас крышачку, бадай, марскі, чым кантынентальны, бо Атлантыка ад нас усё ж не надта далёка. Апошнія зімы ў нас былі досыць цёплыя. Цыклоны, узнікаючы над Атлантыкай, прыносяць на Беларусь цёплыя масы паветра, яны перакрываюць халодныя патокі з Поўначы, і цыклоны гэтыя ідуць звычайна адзін за адным. Халодна бывае калі? Калі адыходзіць адзін цыклон, а ў перапынку паміж адыходзячым і наступным "зацякае" холад з Арктыкі. Такія працэсы не выключаны і гэтаю зімою. Зіма ёсць зіма. Верагоднае паўтарэнне падобных моцных маразоў і ў студзені.

**— Хачу спытаць у вас пра стварэнне штучнага надвор'я. Скажам, у час святкавання 850-годдзя Масквы паведамлялася, што ў тыя дні над расійскай сталіцай разганяліся, больш дакладна — разбураліся дажджавыя хмары. Служба Белгідрамета робіць нешта падобнае?**

— Сапраўды, часам важна не толькі прадказаць надвор'е, але і ўнесці ў яго нейкія карэктывы, інакш кажучы, штучна паўздзейнічаць на тыя ці іншыя прыродныя працэсы. Скажам, чакаецца моцны град, ён можа прынесці немалую шкоду пасевам. Як папярэдзіць бяду? Можна ў воблака ўвесці спецыяльны рэагент, распыліць яго ў ім, і тады замест граду пральецца на зямлю дождж. Але такія працэдуры вельмі дарагія. Гэта — па-першае. А па-другое, такое ўмяшанне і досыць небяспечнае: над адной тэрыторыяй дождж, скажам, папярэдзіш, затое ён можа праліцца там, дзе зусім непатрэбны, проста лішні, а то і шкодны. З прыродай асаблівa жартаваць нельга.

**— А што вы можаце сказаць пра нібыта непазбежнае глабальнае пацяпленне клімату Зямлі? Што чакае ў гэтым плане калі не нас, дык нашых людзей, унукаў, праўнукаў? Наколькі слушныя чуткі-гаворкі пра гэта?**

— Перш-наперш хачу сказаць, што зараз у Беларусі распрацоўваецца Нацыянальная кліматычная праграма. Над ёй працуюць калектывы вучоных НАН, нашага Дзяржаўнага камітэта па гідраметэаралогіі, Міністэрства прыродных рэсурсаў. Гэта вельмі вялікая і сур'ёзная праца, разлічаная на далёкую перспектыву. Безумоўна, у ёй знойдзе адбітак і тэорыя глабальнага пацяплення на нашай планеце. Апошняе вучоныя звязваюць з так званым парніковым эфектам, які ўзнікае ў выніку прамысловай і іншай дзейнасці людзей. Зрэшты, я не кліматолаг, я найперш метэаролаг-прагназіст, і таму не буду ўсчынаць больш падрабязнай гаворкі пра гэта.

**— Тамара Рыгораўна, давайце прыгадаем народныя прыкметы надвор'я. Ямы бяруцца вамі пад увагу? Ці ўжо ўсё ў прыродзе настолькі ўскаламучана, што прыкметы нашых продкаў аджылі сваё і ўжо не адпавядаюць таму, пра што яны калісьці гаварылі?**

— Мы ў сваёй рабоце народныя прыкметы не выкарыстоўваем, абапіраемся на паказанні прыбораў і навуковыя даследаванні. Мы ўсё ж прафесіяналы. Але і народныя прыкметы скідаць з рахунку нявартa. Вось гавораць, што калі сонца сядае ў воблака, дык заўтра можна чакаць дажджу. Што ж, гэтаму можна верыць. Паветраныя масы, я казала, часцей за ўсё прыходзяць да нас з захаду. І калі сонца пры заходзе апускаецца, сядае ў воблакі, значыць, там, на захадзе, збіраюцца хмары, якія, вельмі верагодна, прынясуць праз нейкі час, праз ноч, скажам, да нас дождж. Альбо: чаму ж не верыць прыкмеце, што на мароз дым з коміна ідзе слупом угору? Прыкмета гэтая адназначная.

**— Тамара Рыгораўна, а як вы, беларускія метэаролагі, жывяце сёння ўвогуле? Якая сітуацыя з кадрамі? Не разбягаюцца ад вас людзі — заробкі ж у вас, пэўна, такія самыя мізэрныя, як і ўва ўсіх бюджэтнікаў? Ці, можа, спонсары знайшліся?**

— Бедна жывём, калі папраўдзе. Пра заробкі і гаварыць не хочацца. Але, дайце веры, людзі ад нас не разбягаюцца. Няват і не ведаю, што трымае. Рамантыка, ці што? Праца наша ўсё ж цікавая, кожны дзень, што раз чакаеш нечага новага. Хоць, праўда, моладзь да нас не ідзе, кадры старэюць.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Вабіла сучасная тэма

**Празаік Яўген Васілёнак (нарадзіўся 26 снежня 1917 года, памёр 23 верасня 1973-га) — аўтар зборнікаў аповесцяў і апавяданняў "Зялёныя агні", "Выпадковы прыпынак", "Розныя дарогі", "Таццяна Ларына", "Вячэрняя размова" і іншых. Я. Васілёнак надоўга звязаў лёс з журналістыкай. Яшчэ да вайны працаваў у рэдакцыях раённых і гарадскіх газет Шклова, Барысава, Багушэўска, Оршы, а таксама на Далёкім Усходзе — у Хабараўску, Усурыйску, Уладзівастоку, а ў 1943—1945 гадах служыў у рэдакцыі дывізійнай газеты "Боец-патриот". Да 1948 года быў карэспандэнтам усесаюзнай газеты "Гудок" У Алма-Аце, а пасля пераезду ў Мінск — рэдактарам БЕЛТА, карэспандэнтам газеты "Труд" па Беларускай ССР, загадчыкам аддзела публіцыстыкі часопіса "Маладосць". З 1958 па 1966 год Я. Васілёнак з'яўляўся галоўным рэдактарам часопіса "Нёман". Вядомы і як перакладчык, аўтар драмы "Каралеўскі гамбіт".**

## Лёс звязаў з тэатрам

**Першую сваю п'есу Уладзімір Стэльмах апублікаваў у 1930 годзе. Называлася яна "Шляхі" і праз год была пастаўлена. У. Стэльмах аўтар і іншых драматычных твораў — "Крушэнне рэнегатаў", "Фантан", "Тры крыжы", "Канец маскараду" (разам з Ю. Рудзьком), якія, за выключэннем першай у гэтым спісе, у свой час набылі сцэнічнае жыццё. Вядомы У. Стэльмах і як тэатразнаўца. Ён выдаў нарыс "Народны артыст СССР Г. П. Глебаў", кнігі пра тэатр "Шляхі беларускага тэатра" (на ўкраінскай мове), "Кранаючы чуткія струны душы", "Вечна жывая крыніца", "Тэатр і час". Апошняя мае падзагаловак "Запіскі дырэктара тэатра".**

**А расказаць Уладзіміру Мацвеевічу было што. У 1929 годзе ён паступіў у драматычную студыю Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску, пасля заканчэння якой працаваў у тэатрах рабочай моладзі і юнага гледача ў Мінску акцёрам, дырэктарам, загадчыкам літаратурнай часткі. Удзельнічаў у баях пад Смаленскам, а з 1942 года з'яўляўся загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі Рудакоўскага райкома партыі Тамбоўскай вобласці, з 1943-га — дырэктарам тэатра ў Віцебску, з 1945-га — Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, з 1947-га — Беларускага тэатра імя Янкі Купалы, з 1955 — Беларускага тэатра юнага гледача, а ў 1952—1955 гадах быў начальнікам аддзела тэатраў Міністэрства культуры БССР, у 1966—1971 гг. — намеснікам старшыні прэзідыума Беларускага тэатральнага аб'яднання. 15 снежня з дня нараджэння Уладзіміра Мацвеевіча споўнілася б 90 гадоў (памёр У. Стэльмах 27 студзеня 1974 года).**

## Вынікі супрацоўніцтва



**Год таму завязаліся стасункі гомельскага абласнога Цэнтра народнай творчасці з вядомай у Расіі Сямёнаўскай фабрыкай мастацкага роспісу па дрэве Ніжагародскай вобласці. Сёння ў выставачнай зале Цэнтра народнай творчасці знаходзіцца больш за 70 найменняў вырабаў сямёнаўскай фабрыкі, сярод якіх лыжкі, збаны, блюды, пано і, вядома, традыцыйныя рускія матрошкі.**

*На здымку: загадчыца выставачнай залы Галіна Драбышэўская з сямёнаўскімі вырабамі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# Верыць у Беларусь

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

беларускай нацыі, тым больш гартуецца маральны дух беларускіх патрыётаў, а магчымасць з'яўлення папулістаў, кан'юнктуршчыкаў сярод іх рэзка змяншаецца. Сапраўдныя беларускія патрыёты, не скароныя патрэбамі аднаго дня і жаданнем знешняга дабрабыту, кар'еры, аб'ектыўна з'яўляюцца пасіянарыямі больш чым беларускай нацыі, яны адмаўляюцца ад асабістага інтарэсу, але не могуць адмовіцца ад высакароднай місіі выратавання яшчэ адной грані Красы, Дабра, Праўды. Фактычна яны выконваюць Божую Задуму.

Безумоўна, нацыянальная ідэя — не панацэя ад усіх хвароб, але ўсё ж яна здольная надаць сэнс канкрэтнаму чалавечаму жыццю, задаць і захаваць стабільную сістэму каштоўнасцяў, што дазваляе пазбегнуць унутранага дыскамфорту, розных псіхічных хвароб, яна накіроўвае сілу і дух чалавека на стваральны лад.

Той, хто разумее значнасць і аб'ектыўна-гістарычны характар беларускай нацыянальнай ідэі, непазбежна становіцца беларускім нацыяналістам (у пазітыўным значэнні гэтага паняцця), чалавекам-актуалізатарам, які сябе і іншых успрымае асобамі паўнавартаснымі, цэльнымі, унікальнымі. Такі чалавек абапіраецца на сябе, а не на знешняе асяроддзе, у сабе шукае самабытнасць, гэта свабодная асоба, здольная зрабіць уласны выбар. У прынцыпе беларускі нацыяналіст — гэта асаблівы псіхалагічны тып, рэлігійная натура, упэўненая, што праца прыроды над яе стварэннем заслугоўвае даверу і ўдзячнасці, ён ёсць выразнікам шляхетнасці і сумленнасці, бо як можна трываць, калі топчуць і твой гонар, і гонар тваіх продкаў?

Супярэчнасць псіхалагічнай канстытуцыі беларускага нацыяналіста палягае ў тым, што, з аднаго боку, ён абараняе нацыю, г.зн., "род", з другога ж — індывідуалізм, самастойнасць і мінімальную залежнасць асобы ад якой бы там ні было зададзенасці. Такая дылема вынікае з самой дыхатаміі нацыянальнай ідэі, якая абапіраецца і на прыродную аснову, і на тэндэнцыю духоўнага развіцця, якое заўсёды глыбока ўнутранае. Важна зразумець, што нацыянальная ідэя ёсць ідэя гуманная, яна мае на ўвазе свабоду дзеянняў, думак і слоў асобы. Але псіхалогія тварэння рэальнасці — калектыўная, таму нацыянальная ідэя, не навязваючы для ўсіх адзін светапогляд, аб'ядноўвае творчых і свабодных людзей. І гэта невыпадкова, бо сама нацыя, як вядома, — калектыўная індывідуальнасць.

Беларускі нацыяналіст, маючы моцную волю, здольнасць да мэтанакіраванага выкарanення зла, цягу да духоўнай, інтэлектуальнай разняволенасці мае мужчынскі характар, бо не проста спачувае няшчасцю, але змагаецца з несправядлівасцю, што, дарэчы, ёсць яшчэ адным доказам яго маральнасці. Нацыяналіст не так шукае сродкі супраць зла, як клапоціцца пра знішчэнне прычын гэтага зла. А так як менавіта прыхільнік беларускай нацыянальнай ідэі з'яўляецца сапраўдным выразнікам самабытнасці беларускай нацыі, носьбітам яе асноўных рысаў, то, натуральна, можна сцвярджаць, што беларуская нацыя мае асаблівасці мужчынскага тыпу, як, напрыклад, паводле І. Канта, мужчынскі характар маюць немцы, іспанцы, англічане.

Гэта, аднак, аніяк не выключае ролю жанчын у працэсе не толькі станаўлення і развіцця беларусаў як нацыі, але і ў працэсе станаўлення самой нацыянальнай самасвядомасці. Няма патрэбы тут называць такія вядомыя ў гісторыі і культуры прозвішчы, як Еўфрасіння Полацкая, Цётка, Ларыса Геніюш і мноства іншых. Пра тое, што з прычыны частых крывавых войнаў і этнічнага генацыду была фізічна знішчана большая і лепшая мужчынская частка беларусаў, менавіта беларускім жанчынам даваліся ўзяць на свае плечы адказнасць не толькі за фізічнае выжыванне нацыі, але ў значнай меры і за развіццё духу, пісалася таксама нямала. Але даследаванне рысаў жаночага і мужчынскага нацыянальнага характару — тэма асобнай гаворкі. Адзначым толькі, што сёння роля жанчыны ў захаванні беларусаў як нацыі непамерна ўзрастае таму, што гэтае захаванне пад усё ўзрастаючай пагрозай, а жанчыне лёсам наканавана зберагаць традыцыі, выконваць ахоўную, кансерватыўную функцыю. Абавязак захавання роду мае біялагічны сэнс, але і маральны таксама, бо захоўвае і "род", і соцыум. Са свайго боку, грамадзянскі абавязак натуральны, прыродны. Менавіта жанчына нясе асноўны цяжар па выхаванні дзяцей і трывогі за будучыню пакаленняў. Не забывайма таксама, што актыўны ўдзел жанчыны ў грамадскім, сацыяльна-палітычным жыцці ёсць важнай прыкметай дэмакратычнасці грамадства, без якой наша нацыянальнае развіццё наўрад ці магчымае.

Такім чынам, беларуская нацыянальная ідэя — маральная па сваёй сутнасці, бо:

1) Нацыянальная ідэя — прагрэсіўная, маральная для любой нацыі, якая з розных гістарычных прычын не мела магчымасці для свайго поўнага самастойнага развіцця, і для якой паняцце Адраджэння мае значэнне выкарыстання такіх набытых магчымасцяў;

2) Ні ў чым так не адлюстроўваецца характар нацыі, як у яе маральным абліччы, усёй сістэме яе маральных каштоўнасцяў. Таму маральны аспект — іманентны для любой нацыянальнай ідэі. Адмаўляцца ад свайго, не змагацца за сябе — самазабойства, грэх, амаральнасць;

3) Беларуская нацыянальная ідэя актывізуе ўнутраныя сілы нацыі, звяртае ўвагу на самаразвіццё і самарэалізацыю, без пасягнення на свабоду і самавызначэнне іншых нацый;

4) Беларуская нацыянальная ідэя абуджае народную памяць, а без памяці няма маралі. Усялякае забыццё — амаральнае. Дзякуючы памяці магчымы такі найважнейшы маральны акт, як пакаянне. Ці можа быць духоўным, амаральным чалавек "без роду і племені"? Адсутнасць самасвядомасці арганічна спалучаецца з утылітарызмам, прагматызмам, спажывецкай псіхалогіяй, адсутнасцю разумення сувязі пакаленняў і, як правіла, сэнсу жыцця;

5) Беларуская нацыянальная ідэя накіравана на стварэнне дастойных умоў жыцця, калі будзе думацца не толькі пра самавыжыванне, але пра творчасць. Яна і патрабуе ўнутранай свабоды асобы, і дае гэтую свабоду. А свабода — аснова асабістай маральнасці і мэта сацыяльнага жыцця.

6) Беларуская нацыянальная ідэя абапіраецца на сумленне нацыі і асобы — асноўную катэгорыю маральнасці, а таксама патрабуе самаахвярнасці і цярпення, мужнасці і пакоры, свабоды і павагі да індывідуальнасці, сілы духу і веры, апоры на вечнае.

Узаемасувязь і ўзаемазалежнасць беларускай нацыянальнай ідэі, маральнасці, веры і рэлігіі — ці не самае важнае пытанне для разумення сутнасці БНІ. Пры гэтым трэба памятаць, што мараль — гэта больш грамадская, калектыўная з'ява ў адрозненне ад маральнасці і духоўнасці, якія ідэнтычныя, як канкрэтнае жыццё.

Асабіста для мяне застаецца адкрытым пытанне: ці можа чалавек верыць у Бога і не адстойваць Беларусь?

Зразумела, размова ідзе перш за ўсё аб хрысціянскай рэлігіі як асноватворчай для беларускай культуры (у шырокім яе сэнсе) і беларускай свядомасці. Канечне, нельга не ўлічваць уплыў на ўсе сферы жыццядзейнасці беларускага народа язычніцтва, іншых рэлігій і веравызнанняў, але ў плане станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай ідэі роля хрысціянства вызначальная. І тут важна размежаваць ролю і ўплыў хрысціянства на лёс беларускай нацыі ў плане знешнім, калі яно ў сваіх розных формах выступае як адзін з культурна-гістарычных чыннікаў у пэўным часе, і ўнутраным, калі непасрэдна фармуе светаўяўленне кожнага канкрэтнага чалавека.

У адрозненне ад большасці іншых рэлігій хрысціянства знаходзіць апору не ў эпічна-міфалагічнай традыцыі, а ў асабістым прыкладзе Хрыста, што накіроўвае свабоду чалавека не толькі на ўнутраную рэальнасць душы, але і на пераўтварэнне знешняга свету, калі сам чалавек становіцца цалкам адказным за свой лёс. Беларуская нацыянальная ідэя ёсць нішто іншае, як добраахвотна прынятая адказнасць унутрана свабоднай асобы. І яна патрабуе менавіта яркіх, свабодалюбівых, актыўных асоб, здольных павесці за сабою людзей, што асабліва актуальна зараз.

На чым палягае самаадданы патрыятызм беларускіх нацыяналістаў? Часткова на разуменні, што, як і іншыя народы, спраўдзіць сябе беларусы могуць, толькі застаючыся самімі сабою і творачы свае формы быцця. На веданні гісторыі, культуры свайго краю (і суседзяў, а таксама сусветнай гісторыі і культуры), калі становіцца відавочным, што этнас з такімі багатымі старадаўнімі традыцыямі, які перажыў не адну вайну і не адзін від этнацыду, не можа проста так згінуць. На рацыяналізме, бо нацыянальны рух ва ўсім свеце не затухае, а набывае ўсё больш разнастайныя формы свайго аблічча, нацыянальная ідэя пры гэтым усё часцей успрымаецца як аб'ектыўна неабходная для развіцця чалавецтва, пра што вельмі падрабязна і абгрунтавана піша ў сваёй кнізе "Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі" Энтані Сміт. На прагматызме, бо, як вядома, эканоміка, палітыка і культура існуюць ва ўзаемазалежнасці, а стварыць пэўныя матэрыяльныя і іншыя даброты лягчэй, будучы гаспадаром у сваім доме.

Беларускі нацыяналізм палягае яшчэ на шмат чым іншым, ды толькі, думаецца, ён

# Што заўтра будзе: ці дождж, ці пагода?

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

І кадры старэюць, і абсталяванне, і памяшканне наша, бачыце, мэбля — усё таксама дажывае веку. Зараз, праўда, сёе-тое нам перапала, мо крыху ачуняем, набудзем штонебудзь з тэхнікі, падрамантуемся... А спонсары нас не заўважаюць. Яны "клююць", пэўна, на нешта іншае...

**— Дарэчы, калі ўжо зайшла гаворка пра спонсараў... Ведаю, што ў заходніх краінах, у той жа Амерыцы службы надвор'я — досыць багатыя арганізацыі. Метэаролагі прыносяць розным канцэрнам, асобным галінам гаспадаркі (рыбалоўству, скажам, сельскагаспадарчым прадпрыемствам) велізарную карысць і за гэта маюць немалыя прыбыткі. Ім плацяць за прагнозы надвор'я, асабліва доўгатэрміновыя, за папярэджанні наконт ураганаў, тайфунаў, землетрасенняў, паводак і г. д. А вам хто-небудзь плаціць за вашы паслугі?**

— Не ведаю, што і сказаць. Нам дазволена зарабляць дадатковыя сродкі за спецыялізаваныя паслугі пэўным аб'ектам розных форм уласнасці. Сёе-тое ў гэтым кірунку мы робім, але сумы, якія атрымліваем, вельмі і вельмі невялікія, ледзь пакрываюць выдаткі. Платных кліентаў пакуль што мала. У 1995 годзе, на пачатку рынкавых адносін, такіх арганізацый было каля 30, зараз іх колькасць не дасягнула і 70. Гэта мізэр на фоне тых 4 тысяч аб'ектаў, якія мы абслугоўваем.

**— Перспектывы метэаслужбы на Беларусі — якія яны? Ці даў што-небудзь вам, метэаролагам, Саюз Беларусі і Расіі? Ажыўляюцца колішнія кантакты і сувязі?**

— Хочацца спадзявацца на лепшае, вядома. Прынамсі, цяпер мы заклапочаны тым, каб хоць страты звесці да мінімуму. Бо ўжо было дайшло да таго, што ў нашым мінскім аэрапорце не стала метэапрыбораў, якія забяспечвалі бяспеку пасадак і ўзлётаў самалётаў. Зараз там ідзе перааснашчэнне і пераабсталяванне метэасеткі. Паявіліся сродкі і на камп'ютэрызацыю нашай службы, каб "размаўляць" з іншымі краінамі на сучасным міжнародным узроўні. Пасля ўтварэння Саюза Беларусі і Расіі ўзнікла думка аб стварэнні сумеснай гідраметэаралагічнай службы. Мы распрацавалі план каардынацыі дзеянняў на 1998—2000 гады. У ім вызначаны ўзаемны абмен інфармацыяй, сумесныя навукова-даследчыя работы. Расія не так даўно набыла супер-камп'ютэр, з дапамогай якога можна будзе даваць больш дакладны прагноз. Мы спадзяёмся карыстацца яго паслугамі.

**— Тамара Рыгораўна, адна з цікавейшых і папулярнейшых праграм Беларускага тэлебачання — "Тэлебарометр", які вядзе абаяльная Яўгенія Гарошка. Вы маеце дачыненне да падрыхтоўкі гэтай праграмы?**

найперш палягае на Веры. І не толькі на патэтычнай веры ў сябе, сваіх продкаў і нашчадкаў, у свой народ. На веры ў вечныя каштоўнасці, у вечнасць. Невыпадкова ўсе памкненні здзяйсняльніка беларускай нацыянальнай ідэі, хоць і абапіраюцца на мінулае, але ўсё ж такі скіраваны ў будучыню.

Аснова ж маральнасці, па І. Канту, — вера ў будучае жыццё, у будучыню. На гэтым жа трымаецца і рэлігія, у тым ліку хрысціянская. Чалавеку, які не верыць у замагільнае жыццё, не дбае аб сваім далейшым, "пазазямным жыцці", не баіцца Страшнага Суда, няма сэнсу быць маральным, рабіць стаўку на вечныя каштоўнасці. Сіла веры дапамагае пераадолець тупік розуму. Менавіта вера, няхай часам да канца не ўсвядомленая, штурхае чалавека на дзеі дзеля будучыні, на тварэнне Дабра, нават калі праца такая здаецца марнай і вынікі яе пакуль нябачныя. "Лепш рабіць дабро, чым падпарадкоўвацца злу" — гэтая хрысціянская ўстаноўка дапамагае чалавеку зарыентавацца ў заблытаным клубку невырашальных праблем суровай рэчаіснасці. Гэтая ж установка рухае і беларускую нацыянальную ідэю. Апора беларускага нацыяналіста — сумленне, асноўная катэгорыя маральнасці. Жыць насуперак сумленню — сорам.

У сваім публіцыстычным артыкуле "Мова (што я думаю пра цябе)" У. Караткевіч піша: "Пасля Багушэвіча і Купалы... здаецца, няма чаго казаць. Але гэта толькі здаецца. Занадта яшчэ моцна сядзіць у некаторых учарашні раб, і яму трэба паўтараць вачавіднае тысячу разоў, бо сорам у наш час і нашаму чалавеку хаця ў чымсьці быць добраахвотным рабом... Ёсць адзіна годны шлях: служыць айчыне да крывавага поту, не чакаючы ўзнагароды ад людзей і лёсу, проста таму, што іначай нельга. Іначай — сорам. І не апраўданне ганебнаму ўчынку ў тым, што "яны самі так хочуць". Сорам — самім так хацець..."

Свабода — яшчэ адна катэгорыя маральнасці. Рабства ва ўсіх формах амаральнае таму, што прыніжае чалавека, не дае магчымасці натуральнага, нязмушанага развіцця. Беларуская нацыянальная ідэя — гэта змаганне за свабоду нацыі і кожнага чалавека ў зададзеных ёй межах.

Хрысціянства, грунтуючыся на сумленні і свабодзе, па сваёй сутнасці садзейнічае захаванню і развіццю беларускай нацыянальнай ідэі, падтрымлівае і мацуе яе носьбітаў. Гэта ёсць аснова ўнутранага боку ўзаемадзеяння беларускай нацыянальнай ідэі і веры, рэлігіі, у прыватнасці, хрысціянства. Выратаванне беларусаў як нацыі мусіць быць праз маральнасць, развіццё духоўнасці, умацаванне ідэалаў хрысціянства.

Што ж да знешняга боку вышэйзгаданай праблемы, то тут важна адзначыць, што нацыянальная ідэя, будучы накіраванай на свабоду асобы і адначасова калектыўнае дзеянне, удала спалучаецца з дзвюма асноўнымі на Беларусі формамі хрысціянства — праваслаўем з яго ідэяю калектыўнасці, сабornасці, і каталіцтвам з яго большай заземленасцю і ўстаноўкай на індывідуальнасць.

У сваёй кнізе "Хрысціянства і беларускі народ" Адам Станкевіч адзначае, што хрысціянства прынесла беларускаму народу культуру і асвету, паняцце грамадскай справядлівасці: "Хрысціянства ...прынесла ў Беларусь граматнасць... гэта ...пабуджала творчы інстынкт народа і развівала яго нацыянальную асаблівасць, прычыняючыся... да большага зліцця ...плямён у адно цэлае нацыянальнае... Хрысціянства... вытварала ў народзе супольную веру, погляды, традыцыю, культуру, народную душу... тварыла родную інтэлігенцыю... Нацыянальнаю ідэяй была ідэя рэлігійная..."

Справядліва лічыць, што ў розныя часы беларускую нацыянальнасць падтрымлівалі розныя канфесіі, і з гэтага пункту гледжання добра, што беларусы не аднаканфесійныя. Так, паводле А. Станкевіча, "нацыянальная ідэя беларускага народа выплывае... з палітычна-культурнай супярэчнасці Захаду і Усходу, з кантрасту, ... якіх падкладам з'яўляюцца рознасці Праваслаўя і лацінскага Каталіцтва".

Пытанне ролі кожнай з канфесій у станаўленні беларускай нацыі і беларускай нацыянальнай ідэі ў пэўным часе — гэта пытанне гісторыі Беларусі і пытанне гісторыі царквы на Беларусі. Адзначым толькі, што для ўзнікнення і развіцця беларускай нацыянальнай ідэі велізарнае значэнне мела грэка-каталіцтва, а пасля яго фактычнага вынішчэння — рыма-каталіцтва. Не маючы ніякіх ілюзій адносна таго, што даволі часта каталіцтва на Беларусі было польскім (наколькі канфесія ўвогуле можа быць нацыянальнай), усё ж асмелімся сцвярджаць, што ў сітуацыі, калі касцёл практычна супрацьстаяў русіфікацыі, ці не большасць вядомых беларускіх культурных дзеячаў за апошнія два стагоддзі, сярод якіх — Т. Касцюшка, С. Манюшка, П. Багрым, Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, А. Міцкевіч, К. Каліноўскі, А. Гурыновіч, Ф. Багушэвіч, К. Каганец, Ядвігін Ш., Цётка, Я. Купала, А. Гарун, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі, Я. Драздовіч і іншыя — каталіцкага веравызнання. Увогуле ўплыў кожнай з канфесій на развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў — тэма асобнага даследавання, тым больш што сама гісторыя хрысціянства і іншых рэлігій на Беларусі патрабуе дэталёвага вывучэння.

Каталіцтва, у параўнанні з праваслаўем больш набліжанае да зямнога жыцця, больш рацыянальнае, з большымі традыцыямі ў навуцы, сацыяльна-эканамічным, грамадскім жыцці, схільнае да ўкаранення ў нацыянальныя культуры, да выкарыстання нацыянальных моў, па сваёй сутнасці бліжэй да нацыянальнай ідэі, у тым ліку беларускай.

Абуджаючы веру ў чалавечую прыроду, спрыяючы росту індывідуальнасці, хрысціянства даводзіць да нас, што выратаванне беларусаў мусіць быць унутраным, праз духоўнасць, якая заўжды індывідуальная.

Хрысціянскія рэлігійныя запаветы вучаць беларускіх патрыётаў, што проста нямажна адштурхоўваць, рэзка адсякаць ад беларускаай ідэі людзей, якія па розных прычынах не прымаюць ці застаюцца раўнадушнымі да яе. Любая ізаляванасць беларускіх нацыяналістаў можа быць зразумета і даравана, але гэта любая ізаляванасць памылка, — бо здзяйсняльнікі беларушчыны проста абавязаны быць узорам высокай культуры, адукаванасці і, што найбольш важна, — маральнасці. Сіла беларускай ідэі і яе носьбітаў вызначаецца якраз маральнасцю, высакароднасцю.

Беларуская нацыянальная ідэя ёсць ідэя маральная, але і выратванне яе — у маральнасці, веры яе носьбітаў.

Думаецца, што вяртанне да веры не так праз адзіную рэлігію, што на Беларусі наўрад ці магчыма, як праз маральнасць асобы і грамадства ў цэлым, а мо нават і праз дзяржаўную мараль, магло б з'яднаць людзей на Беларусі і, незалежна ад формы веравызнання, рэлігіі, паслужыць апораю, падмуркам беларускай нацыянальнай ідэі.

ВЫСТАВЫ

# Паспеў зрабіць шмат

З 26 лістапада па 7 снежня ў памяшканні Палаца мастацтваў працавала выстава "Кабінет", прысвечаная памяці мастацтвазнаўцы; журналіста, мастака Уладзіміра Бойкі. Арганізатары выставы — творчае аб'яднанне "Тэатральная ліга" і некамерцыйная канцэптуальная галерэя "Брама", а дакладней, яе стваральнік і дырэктар Ларыса Фінкельштэйн.

— Гэтая выстава, — гаворыць яна, — усяго толькі накіды, штрых да партрэта дзівоснага чалавека, чый вобраз — гэта вобраз часу, цэлага пакалення, пласта айчыннай культуры. А ягоныя малюнкі, рукапісы, акварэлі — гэта сімвалы, вобразы, матэрыяльныя сляды велізарнай духоўнай працы. Назву "Кабінет" Уладзімір Андрэевіч адобрыў яшчэ пры жыцці. Але кабінет — не азначае пакой. Гэта паняцце мае вельмі шырокі сэнс: Уладзімір Бойка тварыў, сачыняў, разважаў, аналізаваў і адукоўваў заўсёды і ўсюды. Мы ж імкнуліся адкрыць невядомыя грані яго творчасці...

Я ўваходжу ў "кабінет" Уладзіміра Бойкі. Насупраць дзвярэй — вітрына на сцяне. У цэнтры — фотаздымак. У. Бойка — на балконе, побач з якім расце яго любімая бяроза. Добра знаёмы позірк і нязменная цыгарка ў руцэ. Вакол фотаздымка — малюнкі, шаржы, яго газетныя артыкулы. Унізе, на століку — пішучая машынка, збан з пэндзлямі, веерам — кнігі. Вобраз працы, вобраз кватэры, у якой кнігі жылі нароўні з гасціннымі гаспадарамі.

У гарызантальных вітрынах — эцюды, зноў фотаздымкі, малюнкі. Кнігі, дзе ён і аўтар, і мастак-афарміцель. Незакончаныя рукапісы. Вершы, якія ён не публікаваў. Часопісы, дзе друкаваўся. Сведчанні яго нястомнай працы. Акварэлі Уладзіміра Бойкі зачароўваюць вытанчанасцю колеру. Яны былі вядомы, але — усяго толькі шчыльнаму колу сяброў, зараз, на белых плоскасцях сцен, абрамаваныя чорнымі рамкамі, яны раптам адкрыліся нечакана і ярка многім.



Я ўбачыла творчую лабараторыю чалавека, які шмат зрабіў, але ўсё-ткі, як яно звычайна бывае, не паспеў зрабіць яшчэ болей. Сярод экспанатаў — два эскізы да праекта неажыццёўленага спектакля па п'есе Гарсіа Лоркі, які Барыс Луцэнка збіраўся ставіць у Тэатры-студыі кінаакцёра. Ён не паспеў закончыць ужо прадуманыя, прачулыя кнігі. Ён рабіў тое, што было яму цікава. Пісаў артыкулы, эсэ, сцэнарыі, даследаванні. Вёў перадачы на радыё і тэлебачанні. Рабіў калажы, маляваў, пісаў кнігі.

Ён сябраваў з многімі: вядомымі і амаль невядомымі. Ён быў вольным ад пагоні за знешнім: поспехам, званнямі публікацыямі, узнагародамі, і гэта давала ўнутраную свабоду, шчырасць у жыцці і творчасці.

**Таццяна ПАЛЯКОВА**

# Апошні прамень Ахола-Вало

На 98-м годзе жыцця памёр Аляксандр Пятровіч Ахола-Вало — мастак, філосаф, пісьменнік. Апошні раз Ахола, што па-фінску азначае "Прамень" , наведаў Мінск у 1995 годзе, калі быў запрошаны А. Мальдзісам на Міжнародны кангрэс беларуса свету. Так, фін па нацыянальнасці, Аляксандр Пятровіч лічыў сябе і беларусам. Бо менавіта ў Віцебску, а потым у Мінску фарміравалася яго асоба — грамадзяніна свету, мастака, філосафа. Вучыўся ён у Віцебскай мастацкай школе ў Ю. Пэна, С. Юдовіна, слухаў лекцыі рускіх авангардыстаў В. Ермалаевай і іншых у майстэрні СНОМАСа.

Першыя тэматычныя кампазіцыі нараджаліся пад уплывам часу — рэвалюцыйная рамантыка, успрынятая як праграма лепшага будучага: "Сэрца Данка", "Сэрца сусветнага кахання" і інш. Менавіта ў Віцебску Аляксандр Пятровіч пачаў распрацоўваць першыя сімвалы сваёй арыгінальнай сістэмы тэсціравання, асобныя раздзелы якой былі зацверджаны на навуковых канферэнцыях у Еўропе.

У горадзе Хяменліне (Фінляндыя) у музеі А. П. Ахола-Вало знаходзіцца каля дзесяці тысяч твораў мастака, дзе "беларускі перыяд" прадстаўлены ў асобным "беларускім" кутку. Гэта перш-наперш больш чым дзвесце ілюстрацый, якія мастак выконваў для беларускіх газет і часопісаў у 1920—1930-я гады: для "Беларускага піянера", "Работніцы і сялянкі", "Беларускай вёскі", "Савецкай Беларусі", "Оркі", "Молата", "Чырвонай змены" і інш. Ён — аўтар вокладак кніг многіх нашых пісьменнікаў: "Новая зямля" Якуба Коласа, "Плынь" М. Грамыкі, "Хвоі гавораць" К. Чорнага, "Угрунь" А. Александровіча, "Табе" А. Вольнага, "Ветры буйныя" П. Труса і інш. Да іх далучаюцца арыгінальныя вокладкі-кампазіцыі да брашур "Эскадрылья сусветнай камуны", "Чырвоная сялянская вечарына", "Прасторы" і інш.

Партрэт будзе няпоўным, калі не дадаць, што жонка (Алена Нікановіч-Яцэвіч) была віцяблянкай, а дзеці іхнія нарадзіліся ў Мінску.

Аляксандр Пятровіч — чалавек стагоддзя — ішоў у нагу са сваім часам. Яго навуковая і мастацкая дзейнасць з'яўляецца прыкладам таго, як чалавек, надзелены талентам і гарачым сэрцам, можа накіраваць сваю энергію на сцвярджэнне светлых ідэй грамадства.

Няхай зямля Вам будзе пухам, шаноўны Аляксандр Пятровіч!

**Людміла НАЛІВАЙКА**

— Так, нашы спецыялісты даюць інфармацыю Беларускаму тэлебачанню. Нават раскрыю вам адзін сакрэт. Калі "Тэлебарометр" дагэтуль выходзіць два разы на тыдзень, дык з новага года ён будзе выходзіць штодня. У сувязі з пераабсталяваннем і камп'ютэрызацыяй нашай службы супрацоўніцтва з тэлебачаннем будзе больш шчыльнае і надзейнае.

**— І апошняе пытанне, Тамара Рыгораўна. Было б проста недаравальна не спытаць у вас пра надвор'е пад Новы год, у святочную навагоднюю ноч?**

— Па нашых звестках, самая халодная навагодняя ноч была ў 1970 годзе, калі тэмпература паветра апускалася да мінус 26,4°. А самая цёплая — у 1994 годзе, з лужынамі на тратуарах, з тэмпературай паветра плюс 1°. Ноч пад Новы, 1998 год, па ўсіх нашых прыкідках, будзе без анамалій, звычайная зімовая ноч, гэтак характэрная для нашай беларускай, зусім не лютай, зімы — з невялікім марозікам і такім жа невялікім лёгкім сняжком. Зрэшты, апошняе, думаецца, не так і важна. Галоўнае, што гэта будзе Навагодняя ноч, якая пры любых акалічнасцях будзе святочная, чароўная, незабыўная.

**— Дзякуй вам, Тамара Рыгораўна, на добрым слове!**

**Марыя МІХАЙЛАВА**

НОВАЕ

# "...Выклік сучаснасці"

5—6 снежня ў памяшканні Беларускага Гуманітарнага Адукацыйна-Культурнага Цэнтра адбылася незвычайная і неардынарная з'ява: яшчэ ў гэтым стагоддзі паспела адрадзіцца традыцыя беларускіх калегіумаў (скасаваная ў XIX стагоддзі), пра што засведчыў прайшоўшы там семінар "Беларусь, Польшча, Сярэдняя Еўропа: выклік сучаснасці".

Што такое сёння Беларускі Калегіум? Перш за ўсё гэта адукацыйны праект шэрагу недзяржаўных "інстытуцыяў", куды ўваходзяць "ЭўроФорум", БГФ "Наша Ніва", Беларускі Інстытут Цэнтральна-Усходняй Эўропы, згаданы ўжо Беларускі Гуманітарны Адукацыйна-Культурны Цэнтр, а ў рабоце семінара да таго ж прымаў удзел і Польскі Інстытут. Дзейнасць Беларускага Калегіума адбываецца ў супрацоўніцтве з цэнтральнаеўрапейскімі і заходнееўрапейскімі адукацыйнымі і навуковымі цэнтрамі і скіравана на падтрымку дэмакратычных працэсаў у грамадстве, каб стварыць асяродак адпаведна зарыентаваных інтэлектуалаў, выкладчыкаў, дзеячаў культуры. У мэтах праекта стаіць перш за ўсё ўмацаванне грамадзянскай супольнасці праз сістэму недзяржаўнай, публічнай адукацыі. Што хутчэй за ўсё будзе выглядаць як забеспячэнне "адукацыйнага плюралізму і набліжэнне адукацыйных практык да заходніх стандартаў". Здаецца прыгожую праграму цяжка будзе напоўніць канкрэтным напаўненнем, аднак мяркуецца стварыць нават міжнародную Вышэйшую школу, якая б давала ўзровень магістра і доктара, і працавала б па мадэлі "адкрытага універсітэта". Арганізатары Беларускага Калегіума (дырэктар праекта Алесь Анціпенка) узялі на сябе даволі вялікую адказнасць: мяркуецца распрацаваць новыя навучальныя курсы, правесці публічныя лекцыі, выдаць адпаведную літаратуру.

Прайшоўшы ў межах калегіума навукова-практычны семінар "Беларусь, Польшча, Сярэдняя Еўропа: выклік сучаснасці" дакладней можна было б назваць чыста навуковым, ці нават проста метадалагічным.

Пра што ішла гаворка? На маю думку - гэта быў, перш за ўсё, працяг адказу на адзінае вялізнае беларускае пытанне: "За што?" (Па аналогіі з расійскім "Што рабіць?"). Называліся і ацэньваліся факты, цвяроза і спакойна ацэньвалася сітуацыя, яе карані і прадгісторыя. Сапраўды, па словах Алега Дзярновіча, сёння "пад цяжарам нігілізму ні адна цвярозая галава можа згубіць цвярозасць". Таму галоўным сёння з'яўляецца асэнсаваць, што адбываецца і адпаведна дзейнічаць. Ігар Бабкоў (галоўны рэдактар часопіса "Фрагмэнты") у дакладзе "Беларусь: нясконачаная мадэрнасць" даводзіў, што Беларусь магла б стацца постмадэрнай краінай, але да гэтага павінна стаць хаця б мадэрнай. (Тут варта ўзгадаць метадалагічныя распрацоўкі руху "Бум-Бам-Літ", згодна з якімі Беларусь ужо ёсць постмадэрнай краінай, прычым настолькі постмадэрнай, што далей няма куды). Павел Церашковіч (лепшы антраполаг Беларусі, бо адзіны спецыяліст у гэтай галіне) выступіў з лекцыяй "Этнасы і нацыі ў пераходных грамадствах: Беларусь". З яго выступлення можна зрабіць выснову, што вялікай бядой для беларусаў стала тое, што масавае гарадское насельніцтва тут пачало фармавацца ў шасцідзесятыя гады, акурат з "камунізмам за 20 год" і адпаведнай магутнай "інтэрнацыянальнай" і аднамоўнай прапагандай.

Выступалі і замежныя госці: Станіслаў Брындза-Стабро (доктар Кракаўскага універсітэта), Акаш Энгельмаер (эксамбасадар Вугоршчыны ў Польшчы і Беларусі). Актыўны ўдзел у дыскусіях прымаў Польскі Інстытут.

**Лесь ТУР**

# "Пробліск"

Назву "Пробліск" атрымала літаратурна-мастацкая арганізацыя, што сфарміравалася пасля "Узвышша" ў выніку расколаў у "Маладняку" на пачатку другой паловы 20-х гадоў. Дакладней — "Пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка ("Пробліск")". Заснавальнікамі яе сталі пісьменнікі Я. Бобрык, А. Звонак, А. Гурло, Т. Кляшторны, С. Плаўнік, Я. Туміловіч, М. Хведаровіч, Н. Чарнушэвіч. Менавіта яны, як і належала ў тыя часы, 29 красавіка 1927 г. звярнуліся ў ЦК КП(б)Б за дазволам на вылучэнне з "Маладняка" ў самастойную арганізацыю з уласным друкаваным органам. У якасці арганізацыйных і мастацка-эстэтычных падстаў выхаду называліся нязгода з формамі і метадамі маладнякоўскага кіраўніцтва, яго адносінамі да "радавога" маладога пісьменніка, нязгода з тэндэнцыямі ў развіцці "Узвышша". Апошняе, на думку "пробліскаўцаў", ператваралася ў вузкаакадэмічную, замкнёную групу. Наогул аўтары зварота лічылі, што разыходжанні паміж беларускімі літаратурнымі групоўкамі ёсць толькі ў прынцыпах працы, метадах "будавання пралетарскай (па змесце), нацыянальнай (па форме) беларускай літаратуры". Зразумела ставілася пытанне і пра матэрыяльна-фінансавую падтрымку новай арганізацыі.

Дазвол на арганізацыйнае афармленне быў атрыманы. Складанасці ўзніклі з фінансавымі сродкамі, асабліва з заснаваннем часопіса; без яго суполка перспектыў на пашырэнне, прапаганду сваіх поглядаў і прынцыпаў не мела. Не было і дастаткова акрэсленай мастацка-эстэтычнай платформы і праграмы практычных дзеянняў. Да таго ж пастаянна адчуваўся ціск з боку ідэалагічных службаў ЦК КП(б)Б. ЦК быў зацікаўлены ва ўмацаванні "Маладняка" як адзінага літаратурнага аб'яднання, падпарадкаванага партыйнаму кіраўніцтву. У выяўленых архіўных матэрыялах можна прачытаць, што ў Беларусі напрыканцы 1927 г. "Пробліск" "ні з фармальнага, ні з ідэалагічнага боку пакуль яшчэ сябе не выявіў". У тагачасных афіцыйных публікацыях адзначаецца, што гэтая творчая група, не паспеўшы замацавацца, распалася і зноў пайшла за "Маладняком".

У сучаснай літаратуры аб ідэйных і мастацкіх пазіцыях групы, адносінах яе членаў да літаратурных працэсаў, якія адбываліся ў Беларусі ў другой палове 20-х гадоў, вядома, няшмат. Таму пэўную цікавасць уяўляе ліст заснавальнікаў гэтага творчага аб'яднання ў ЦК КП(б)Б з абгрунтаваннем сваіх поглядаў, які і прапануецца чытачу.

# У Цэнтральны Камітэт Камуністычнае партыі Беларусі

**Ад беларускіх пісьменнікаў: Бобрыка, Звонака, Гурло, Кляшторнага, Плаўніка, Туміловіча, Хведаровіча і Чарнушэвіча.**

Мы — ніжэйпадпісаныя зьвяртаемся да Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі Беларусі з наступным:

1. Як вядома, зараз на Беларусі літаратурныя сілы згуртаваны ў двух літаратурных групоўках — "Маладняку" і "Узвышшы", апрача таго, ёсць шмат літаратурных адзінак, якія не ўваходзяць ні ў адну з гэтых груповак. Да апошніх адносяцца і падпісаўшыя гэты ліст.

2. Мы лічым, што між усімі гэтымі літаратурнымі сіламі ніякіх ідэолёгічных разыходжаньняў ня існуе. Як перад "Маладняком" і "Узвышшам", так і перад тымі пісьменьнікамі, якія не ўваходзяць у памянёныя групоўкі або выйшлі з іх і працуюць паасобна, стаіць **адна мэта** — будаваньне **пралетарскай** (па зьместу), **нацыянальнай** (па форме) беларускай літаратуры. Разыходжаньні-ж між гэтымі групоўкамі толькі ў ПРЫНЦЫПАХ працы, у МЭТАДАХ АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЯ ГЭТАЕ ВЯЛІКАЕ ЗАДАЧЫ, АДЗІНАЕ ДЛЯ ЎСІХ НАС.

3. Прызнаючы вялікія заслугі за "Маладняком", як першым беларускім згуртаваньнем маладых літаратурных сіл, падпісаўшыя гэты ліст лічаць, што, **па-першае**, мэтады працы гэтага згуртаваньня былі і ёсць няправільныя: культасьветная масавая праца, армія "пісьменьнікаў" звыш 500 чалавек і г. д. у мінулым не адпавядалі заданьням літаратурна-мастацкай арганізацыі. Гэта "Маладняк" прызнаў сам у сваім дэкларацыйным артыкуле, зьмешчаным у N9 часопісі "Маладняк" за 1926г. Выхад групы таварышоў, заснаваўшых "Узвышша", сьведчыць аб тым-жа.

**Па-другое:** задач, якія паставіў сабе "Маладняк" пасьля выхаду гэтых таварышоў і аб якіх ён гаворыць у тым-жа дэклярацыйным артыкуле, ён ня выканаў. Дэкляруючы сябе масавай літаратурна-мастацкай арганізацыяй у процівагу "Узвышшу", якое "Маладняк" лічыць вузка-акадэмічным згуртаваньнем 8—10 таленавітых адзінак, "Маладняк" ня стаў. Так званая "некаторая арганізацыйная перабудова", аб якой гаварылася ў памянёным дэклярацыйным артыкуле, і якую зараз "Маладняк" правеў, ёсьць нішто іншае, як той-жа арганізацыйны прынцып, які высунула і "Узвышша": тая-ж замкнутасьць з тою толькі розьніцай, што ў "Узвышшы" 10 чалавек, а ў "Маладняку" цяпер каля 50 чалавек, хоць добрая палова з іх зусім не зьяўляецца пісьменьнікамі. Што-ж датычыць гуртковае і студыйнае працы, з якіх "Маладняк" абяцае "выкачваць новыя сілы", дык з гурткамі ніякай працы не праводзіцца. "Маладняк" нават ня ведае, дзе і сколькі іх, гэтых гурткоў. Усім таксама вядома, што ніякіх літстудый "Маладняк" не стварыў.

Як бачым, і ў гэтых адносінах у "Маладняка" няма сталае адзінае лініі.

**Па-трэцяе:** зараз у шэрагах "Маладняка" няма ніякай арганізацыйнай спаянасьці між асобнымі сябрамі: не вядзецца ніякае працы па выкоўваньню новых літаратурных сіл. Неяк выйшла, што склад згуртаваньня падзяліўся на "камандзіраў" і "радавых". Для першых — усё для далейшага творчага разьвіцьця, для другіх — "прозябание".

Уся пастаноўка працы ў згуртаваньні выклікае нездавальненьне сярод яго сяброў. Як прыклад можна прывесьці, што частка падпісаўшых гэты ліст была нядаўна яшчэ ў "Маладняку", з іх — адзін кіраўнік Менскае філіі, тры сябры бюро гэтае філіі, адзін быўшы кіраўнік Полацкай філіі і адзін сябра бюро Аршанскай філіі заявілі ЦБ "Маладняка" аб зьнішчэньні некаторых такіх момантаў, а ў процілеглым выпадку аб нежаданьні зусім працаваць у арганізацыі. Аднак з іх голасам ЦБ не палічылася, хоць правільнасць заявы і прызнала, а пасьпяшыла хутчэй пазбавіцца ад іх, выключыўшы з арганізацыі ў той час, калі гэтыя таварышы заявілі аб выхадзе.

Як бачым, *пералічаныя факты крычаць аб немагчымасьці пагадзіцца* з прынцыпамі і наогул усёй пастаноўкай працы ў "Маладняку".

4. Мы ня можам пагадзіцца і з **чыста фармальна-мастацкімі ўхіленьнямі "Узвышша"**, з яго тэндэнцыямі ў бок вузка акадэмічнай замкнутасьці.

5. Ня прымыкаючы ні да аднэй з гэтых арганізацый, не згаджаючыся з арганізацыйнымі прынцыпамі ні той ні другой, мы аднак зацікаўлены ў існаваньні і разгортваньні працы як той так і другой арганізацыі, паколькі кожная з іх імкнецца тварыць і творыць, бязумоўна, беларускую пралетарскую літаратуру, і паколькі самі мы творым і імкнемся да шырэйшага разьвіцьця яе.

Апынуўшыся паміж двух арганізацый, мы ня маем тых творчых магчымасьцяй, якія маюць даныя арганізацыі. Далучыцца ні да аднае з гэтых арганізацый мы ня можам па вышэйсказаных прычынах. Адсюль вывад — **неабходнасць для нас згрупавацца ў самастойную арганізацыю.**

На падставе рэзалюцыі ЦК РКП(б) за 1925 г. аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры, у прыватнасьці, пункту 14-га, мы зьвяртаемся да Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі Беларусі з просьбай аб дазволе і садзейнічаньні заснаваньню новае беларускае літаратурна-мастацкае арганізацыі, а таксама аб хадайнічаньні перад належнымі органамі аб водпуску сродкаў на выданьне самастойнага органу нашае арганізацыі. Гэта дасьць нам магчымасьць да вольнае калектыўнае творчае працы на карысьць разьвіцьця і росту беларускай пралетарскай літаратуры. Таварышы, якія з'яўляюцца ўстаноўцамі гэтае групы, усе да аднаго добра выяўлены ў друку, а таксама маюць свае зборнікі.

Мы лічым, што зьяўленьне на Беларусі трэйцяе літаратурнае арганізацыі дасьць яшчэ большы разгон усёй нашай, параўнаўча з другімі, маладой літаратуры, і ніяк ня можа мець адваротных вынікаў.

Тая дыфэрэнцыяцыя літаратурных сіл на Беларусі, якая зараз адбываецца, лішні раз падкрэсьлівае бурны рост нашае літаратуры, вышаўшай на вольны шлях свайго разьвіцьця пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі пад кіраўніцтвам Камуністычнае Партыі і Савецкае Улады. Заснаваньне "Узвышша" і багатыя вынікі яго творчае працы за такі кароткі тэрмін ад часу заснаваньня сьцьвярджаюць нашу думку аб неабходнасьці і карыснасьці заснаваньня нашае літаратурнае арганізацыі.

6. МЭТАЮ нашае арганізацыі мы лічым — будаваньне праз сваю творчасьць пралетарскай літаратуры на Беларусі і ЗАДАЧАЙ — няўхільнае імкненьне да ажыцьцяўленьня гэтае вялікае мэты. Мы знаходзім, што ў меншай па ліку сяброў арганізацыі, якою зьяўляецца і наша арганізацыя, партыя зможа больш шырока праводзіць і сваё кіраўніцтва.

7. Мы лічым самаю важную задачаю ў сучасны момант, даць высокамастацкія творы, але, разам з тым, **зразумелыя, даступныя** ня толькі для чытаючых вярхоў, але і **для радавых чытаючых рабоча-сялянскіх мас**, творы пазбаўленыя ўпадніцкіх тэндэнцый, адцягненасьці ад сучаснасьці, з аднаго боку, і голае нічым ня прыкрытае агітшчыны, з другога (што наглядаецца і да гэтага часу ў творчасьці "Маладняка"), а таксама пазбаўленыя мудраваньняў фармальна-мастацкага характару з ухілам у бок індывідуалістычнае настраёвасьці і незразумеласьці для шырокіх мас (што наглядаецца ў творчасьці "Узвышша").

Асноўным лёзунгам сёньняшняга дню мы высоўваем — **стаць бліжэй да мас сваёю творчасьцю**, якая адбівала-б імкненьні і настроі і захапленьне вялікім сацыялістычным будаўніцтвам рабочае клясы, не забываючы разам з тым, што беларуская мова яшчэ вельмі мала выкарыстана нашай літаратурай, што далейшая крышталізацыя яе неабходна ў мастацкай творчасьці.

8. Да гэтых пастаўленых сабе задач мы будзем няўхільна імкнуцца і творчасьцю сваёй апраўдаем іх, пры ўсямерным падтрыманьні і пад кіраўніцтвам Камуністычнае Партыі Беларусі.

**Подпісы:**

**Я. Бобрык, А. Звонак, А. Гурло, Т. Кляшторны, С. Плаўнік, Я. Туміловіч. М. Хведаровіч, Н. Чарнушэвіч**

*29-га красавіка 1927 году.*

*г. Менск*

**P. S.** У архіўнай папцы з заявамі і лістамі ў УК КП(б) Б пра стварэнне і дзейнасць літаратурных арганізацый падшыта некалькі вершаў, прызначаных, хутчэй за ўсё, для ілюстрацыі ідэйна-эстэтычных поглядаў паэтаў, што выходзілі з "Маладняка" і далучаліся да тых ці іншых груп. Сярод іх верш Т. Кляшторнага, аднаго з заснавальнікаў "Пробліска".

Тодар КЛЯШТОРНЫ

●

*За брамай ноч...*
*Даўно грачы паснулі,*
*Даўно зара патухла за ракой...*
*І пуста, пуста так...*
*...Нічога не пасуліць*
*Ні харастве,*
*Ні дружбу, ні спакой...*
*Сяджу адзін...*
*А белыя бярозы*
*Скубуць вятры*
*як косьці мерцьвякоў.*
*Мінулай крыўдай*
*высушаны сьлёзы,*
*Зьвярынай помстаю*
*растоптана любоў.*
*А ў гэты час,*
*Калі начныя сьцені*
*Зьлятаюцца на дрэмлючы абшар,*
*У спальні чысьценькай*
*Тупыя лятуцені*
*Ўдыхае вузкая чарнільная душа.*
*Ёй і сьвятла, і харастве ўмеру,*
*Ў комплекцыі і шчасьця і любоў;*
*Абы жыцьцё ня ськінула кар'еру,*
*Абы ня страціў лодку рыбалоў.*
*І вось за ўсё,*
*За ўсё, за ўсё за гэта,*
*Каб затуманіць чорныя грахі,*
*Усякаму і кожнаму поэту*
*Вы хочаце паказываць шляхі.*
*О, не...*
*Панове, не...*
*Казёнымі кручкамі*
*Сусьвету свой*
*ня створыце закон...*
*Мы не для вас...*
*Поэты знаюць самі,*
*Хто рулявы*
*На чоўне нашых дзён...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Нямая ноч...*
*За брамай ветры веюць,*
*Акрыўды сэрца точаць, точаць...*
*Што-ж,*
*Там, дзе гудкі,*
*Там, дзе палі квітнеюць,*
*Загіне чорная душэўная пустош;*
*Бо сонца душ —*
*Не аддаём за плату...*
*Ня крытык*
*нам сьляпы інтэлігент.*
*Наш паўнапраўны крытык*
*у варштату,*
*І для варштату сёньняшні поэт.*

*Менск, 12/V-1927 г.*

Лёс пісьменнікаў, што стваралі пралетарска-сялянскую беларускую літаратурную суполку "Пробліск", як і шэрага літаратараў з іншых творчых груп, быў трагічны. З 8 чалавек, якія падпісалі ліст у ЦК КП(б)Б і ўдзельнічалі ў працы суполкі, 6 у 30-я гады падвергліся палітычным рэпрэсіям, адбылі значныя тэрміны зняволення ў папраўча-працоўных лагерах і ссылцы. Двое з іх — Тодар Кляшторны і Янка Туміловіч — расстраляны. Усе рэабілітаваны.

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ**
**Яўгенія ФАЛЕЙ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намесніка галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5853
Нумар падпісаны ў друк 23.12.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 7577/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12